Росквіт.
Літаратурна-маст.
альманах полацкай
філіі ўсебеларускага
аб'еднання паэтаў
і п'сьменнікаў
„Маладняк"

Пралетарыі Ўсіх краёў, злучайцеся!





# РОСКВІТ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ АЛЬМАНАХ ПОЛАЦКАЙ ФІЛІІ УСЕБЕЛАРУСКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ ПАЭТАЎ І ПІСЬМЕНЬНІКАЎ „МАЛАДНЯК".







ВЫДАНЬНЕ
ПОЛАЦКАЙ ФІЛІІ „МАЛАДНЯКА".
ПОЛАЦАК, 1927 г.



# Наш уклад.

Вялікая Кастрычнікавая рэвалюцыя паклала канец наскрозь прагніўшаму старому ладу і рашчысьціла шлях новаму гаспадарчаму і культурнаму будаўніцтву ў сацыялістычным напрамку.

К 10-ай гадавіне Кастрычніка, прамысловасьць СССР, як падстава сацыялізму, скончыла свой восстаноўчы кругабег і перайшла да рэканструкцыі.

Сельская гаспадарка перашагнула даваенны ўзровень і робіць усё новыя і новыя заваёвы.

Беларусь, у тым ліку і Полаччына загаіла свае раны, якія нанесьліся імпэрыялістычнай і белапольскімі войнамі і на руінах мінулага будуецца новае жыцьцё ў братэрскім Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Дзякуючы Кастрычнікавай рэвалюцыі, і на глебе эканамічнага росту, шырока разгарнуўся адражэнчы рух беларускае культуры, якая ў мінулым перажывала шматвяковы нацыянальны і сацыяльны ўціск з боку русыфікатарскае палітыкі раманаўскага рэжыму.

Камуністычная партыя стала на чале правядзеньня нацыянальнага пытаньня, ствараючы нармальныя ўмовы для разьвіцьця беларускай культуры.

Прабудзіліся новыя пласты творчых сіл; стварылася магутная плынь культурнага росту працоўных гораду і вёскі.

Частку гэтага вялікага культурнага будаўніцтва нясе і арганізацыя: Усебеларускае Аб'яднаньне Паэтаў і Пісьменьнікаў „Маладняк".

Стаючы на пралетарскім грунце літаратурна-мастацкай творчасьці аб'ядноўваючы шматлікія літаратурныя сілы Бела-

русі, „Маладняк“ унёс у агульную скарбніцу пралетарскай літаратуры шмат сваіх літаратурных твораў.

Як частка гэтага аб'яднаньня „Маладняк“ Полаччыны таксама з кожным днём расьце і мацнее.

Вось ужо за час свайго існаваньня ён да 10-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі выдае другі літаратурна-мастацкі альманах і гэтым уносіць свой невялікі ўклад у беларускую літаратуру. Як і ўся маладнякоўская літаратура мае свайго пэўнага спажыўца—першы альманах „Наддзвіньне“, выдадзены ў 1000 экзэмпляраў, з посьпехам разышоўся пераважна на Полаччыне.

Гэта значыць, што маладая беларуская літаратурная творчасьць мае свайго сталага чытача сярод працоўных гораду і вёскі.

За два гады існаваньня, „Маладняк“ Полаччыны аб'яднаў навокал сябе маладыя, пераважна сялянскія, літаратурныя сілы, якія з кожным годам растуць і гуртуюцца навокал філіі.

Але перад „Маладняком“ Полаччыны стаіць яшчэ шмат задач:

**Першая**—гэта выхаваўчая работа: выпрацоўка літаратурнага стылю, павялічэньне тэарытычных ведаў кожнага паэты і пісьменьніка, выхаваньне на пралетарскай і клясычнай літаратуры маладых сіл, якія аб'яднаюцца навокал „Маладняка“ Полаччыны.

**Другая**—больш адбіваць у сваіх творах побыт грамадзкага жыцьця гораду і вёскі і працэсы будаўніцтва сацыялізму ўва ўсіх галінах гэтай вялікай будоўлі.

**Трэцяя**—больш пашырыць сваё жывое слова ў гушчы працоўных, каб кожны рабочы і селянін ведаў тыя вялікія задачы, якія ўзяў на сябе „Маладняк“ у літаратурна-мастацкай творчасьці.

**Вяч. Масэвіч.**

# Горад.

Горад! горад!.. каменныя вуліцы
І адвечны раскацісты гул.
Да грудзей тваіх хто ня прытуліцца,
На асфальт не паставіць нагу.

А заводы, гудкі і машыны
Я спазнаў, як калісь васількі...
І цяпер дах увосланы дымам,
Прыгажэй за пунсовы блакіт.

А чаму?—мо таму што у дыме
Толькі тысяч з мазолямі рук!
І грудзямі у сажы худымі
Новых дзён нам саткалі зару.

Мо таму я люблю гэты лёскат,
Грукат, песьні сталёвых машын,
Што для нашае зрэбнае вёскі
Тут куюцца плугі, лемяшы.

Мо таму, што я ведаю, знаю,
Што ўжо блізка, так блізка той дзень,
Як над полем зялёным заграе.
Разьліецца сталёвая зьвень.

Дык за тое так сёньня вясёла,
У сэрцы вера расьце—ў сьветлы лёс,
Што у родным у бацькавым полі
Новых дзён закрышталіў усплёск.

Дык пайду і пайду я уперад
Па дарозе бяз сьцежак крывых.
Шмат у сэрцы маім яшчэ веры,
Сілы шмат у трудзёх маладых.

Ну, бывае... хто цёмнаю ноччу
Гадам сіпне: «ня вер... перастань!»
Але больш загараюцца вочы
І на сэрцы пружыніцца сталь

Горад! Горад!.. каменныя вуліцы
І адвечны раскацісты гул...
Да грудзей тваіх хто ня прытуліцца,
На асфальт не паставіць нагу.

Г. Полацак.
8—3—27 г.



# Мы на Ленінскім шляху.

Я помню дзень—
    марозны студзень.
На белы сьнег
    палеглі цені.
Прышоў дамоў
    з марознай сьцюжы,
а бацька ў сьлёзах—
    «памёр Ленін!..»

Набеглі вочы
    расой сьлязамі
раўком па твары
    ў дол пацяклі...
На што пакінуў,
    каму заставіў,
наш дарагі,
    ты, нас,
        Ільліч?.

...Мятлюга выла
    і завывала
нясла жалобны
    сьлёзны сказ.
Яго няма...
    Яго ня стала...
на паўдарозе
    кінуў нас...

А на услоне
стары дзядуля
засмучан, цьмяны
сівы твар...
сэрца старое
жальбой хвалюе—
«пакінуў нас
наш гаспадар!..».

І раптам ціш...
сьвятлеюць цені,
надзей у душы
узьнік агонь...
Стальную партыю
пакінуў Ленін,
пакінуў Ленін
—камсамол!

Узьвёў на шлях
бягучы к сонцу.
Вакол чырвоны
красуе цьвет.
Пакінем плач—
мацні калёны,
бо з намі
Ленінскі савет!

Сягоньня йдзём
стальной дарогай.
Што дзень бліжэй
агні камун.
Нас зьбіць з дарогі
ніхто ня зможа,
бо мы на
Ленінскім шляху!..

За тры гады
    прайшлі ня мала.
Ня трэба сьлёз!
    ня трэба ліць!
Яго няма,
    але ён з намі
усюды наш
    жыве Ільліч!

Студзень, 1927 г.

# О, Беларусь...

О, Беларусь!..
    так цяжка ўспамінаць.
О, не! той год
    ніколі не забудзем,
калі ў крыві..........
    купалася мяжа
І помста так
    паліла сэрца, грудзі.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Стаялі хаты
    шэрыя ў імгле.
Груган—драпежнік
    лётаў па-над вёскай.
О, хто ў той час
    душою не хварэў?
Хто ласкі не адведаў
    «панска-польскай»?

Лілася кроў...
    нясьліся стогны, енкі.
Стагнаў мужык
    пад панскім бізуном.
А ў палацу
    жандары і паненкі
Спраўлялі баль,
    руччом лілі віно...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

О, тыя дні
так цяжка ўспамінаць,
Бо ў успамінах—
брудныя малюнкі.
О каб умеў
тады ўжо страляць
Яснавяльможных зьбіў-бы
«пастарункі».

А вось цяпер
усе страляць умеем.
І кожны з нас
ня пусьціць дарма кулі.
Хоць за сто вёрст
па ворагу пацэлім,
Нездарма-ж ў волі
рукі адпачнулі.

І помста 'шчэ
палае у грудзёх.
А сілы хопіць,
знаю—разьлічуся...
Хай загудзіць
трывогаю гудок,—
Замест пяра,
вазьму вінтоўку ў рукі.

А колькі нас,
ад молату, сахі.
Эх, Чэмбэрлен!
ня зьлічыш і мільёнаў,
як выйдзем ўсе
краіну бараніць,
ад абжырал,
ад залатых пагонаў.



О, Беларусь!..
красуй-жа і цьвіці.
Якой была,
такою ўжо ня будзеш.
Калі ў вачох
адвагі б'юць агні,
калі палаюць
ў помсьце грудзі...

Ліпень, 1927 г.

---

# М. Багдановічу.

На чужыне ў далі, ня чуў песень і слоў
Ты аб роднай сваёй Беларусі.
...Граў на ліры аб ёй, паіграў і замоўк
І замоўк у жыцьця завірусе.

Але песьня твая, што зьлятала са струн
Залатой і нязмоўчнае ліры,
Адшукала табе родны кут—Беларусь
І зарніцай ў палёх заіскрыла.

Яна йшла на палі, на запылены брук,
Скалыхнула бязьмежную гладзь.
Дарагі наш пясьняр! Хто-б так мог Беларусь
Мала ведаць і гэтак кахаць.

Але гора... спрадвечнае гора
Сьлёзы, стогны і ёнкі братоў
Грудзі сьціснулі больлю дакорам
І жыцьця супынілі разгон.

Твая песьня жыве. Яна вечна.
Яна будзе стагодзьдзямі жыць.
Ёй бурліць і хвалюецца рэчка,
Ёй шумяць каласы ля мяжы.

Хай-жа, хай на далёкім узмор'і
Па-над хатай апошняй тваёй
Прывітаньнем засьвецяцца зоры
Беларускіх зялёных палёў.

13/V-1927 г.

## Таганы.

Шуршаць нахіленыя нізка
Сярпом бліскучым каласы.
А водаль зьвешана калыска
На дрэўляныя таганы.

О маці, маці, колькі ў іх
Сваіх дзяцей ты ўзгадавала.
На гэтых коліках прастых
Іх у зьнямозе ты люляла.

І калі з гэтых таганоў
Дзяціны плач разносіў вецер,—
Ты йшла з пахілай галавой
Пяшчотай матчынай уцешыць.

А колькі раз было і так,
Што плач бяз ўцехі захліпаўся...
Ты не магла яго суняць,
Хоць боль у сэрцы і лілася.

Пякліся грудзі палыном,
А рукі жыта нахілялі.
Бо блізка панскі эканом
Махаў і пудзіў бізунамі...

. . . . . . . . . . . . . . .

Таго няма ўжо... й таганы
На полі жытнім не зьвісаюць...
Мо хіба часам цыганы
Аб іх напомняць шалашамі.

Полацак, 1927 г.

# Адышоўшай.

Паглядзі ты сама ў свае вочы;—
То ня вочы паблеклы туман.
Мо таму, што згарэлі ў ночы
Пад хрыпоты гармонікі п'янай.
Паглядзі ты сама ў свае вочы...

А жыцьцё!.. поўна бруду і гразі,
Безадказная лаянка, хмель.
Ніхто ў сэрца за словам ня лазіць,
Скарыстаць каб хвілінай цябе.
А жыцьцё поўна бруду і гразі.

Ты заўсёды стаіш на панэлі,
Ловіш выпадку грош зарабіць.
І грашам аддаеш сваё цела,
Бо гаворыш: «мне ненашта жыць»
Ты заўсёды стаіш на панэлі.

І сатлееш ты там, і згарыш
І ніхто добрым словам ня ўспомніць.
У дамавіну сайдзеш без пары
Не спазнаўшы чаму сэрца звоніць.
І сатлееш ты там і згарыш.

Ну, няхай што было то калісьці
Як ішла зарабляць сабе хлеба:
Маладосьць твая вяла як лісьце
І зьлятала ня кінуўшы сьледу.
Ну няхай, што было так калісьці.

Ну, а сёньня чаго ты стаіш тут
І гандлюеш бяз сораму воч.
Ці ня хочаш ісьці на работу,
Ці ня чуеш гудзіць як завод.
Ну, а сёньня чаго ты стаіш тут?

Паглядзі... абглядзіся наўкола,
Паглядзі і падумай сама.
І сярод камяніц, і у полі
Працы вольнай бязьмежны размах.
Паглядзі, абглядзіся наўкола.

Дык ідзі... 'шчэ сягоньня ня позна
Разам йсьці і да мэты адной.
Станеш вольнаю ты і цьвярозай,
Станеш зноў прыгажэць маладой.
Дык ідзі, шчэ сягоньня ня позна.

Полацак, 29/III-1927 г.

## А б с а б е.

Бярозкі!..
любыя бярозкі,
вы зноў хістаеце чупрынай
там на палёх
радзімай вёскі
у шэпце ветраў
ля даліны

Вы зноў
вітаеце прыгожасьць
вясны з вішнёваю усьмешкай,
а я ў жыцьцёвым карагодзе
згубіў да поля
свайго сьцежкі.

А я адзін
вось тут стаю
на гэтай
гораду панэлі
і патаемны шум лаўлю
будынкаў хмурых,
пасівелых.

І тут я...
першы пакахаў
зірк незнаёмае дзяўчыны;
І сэрца гнецца далавах,
кіпіць ў нязнанай гарачыні.

Яе...
вось тут я пакахаў,
а пра яе
зусім ня знаю.
У кветках залатога дня
сваё ёй сэрца расхлістаю.

* *
*

Мама!
ты можа думаеш, што я
забыў цябе
і ўжо пакінуў.
Дык знай, ты, родная мая,
што ты заўсёды ў сэрцы сына.

Я думаю
вось тут цяпер
аб тэй чарнявенькай дзяўчыне,
а роем думкі ў галаве
ткуць залацістыя тканіны.

Ты выйдзеш, мама, на дарожку
дзе сьлёзы
сыпала мне ў сьлед...
і будзеш доўга стаяць моўчкі
з пяшчотнай думкай аба мне.

Матуля родная,
ты ў сьлёзах
дзён шчасьця будзеш марыць мне
і сына роднага прыгожым
ня раз
убачыш ўва сьне.

А каб я мог
табе, матуля,
пра ўсё жыцьцё сваё сказаць,
ты-б знала як сыночка туліць
тых неабсяжных вуліц гладзь.

Ты-б знала мо‘
чаму я кінуў
палі
і гушчы стромкіх сосен
і ты мне родная сказала б
сьпяяць мо‘ песеньку на ростань.

* * *

Я так люблю
заход ружовы
і промняў
залацістых куль.
А больш люблю
раскат сталёвы
і вуліцы нязмоўчны гул.

Дык вось таму
я ня прыду
туды дзе рос
і дзе радзіўся,
бо для мяне
радзіма тут,
дзе праца з песьняю
зьліліся.

Г. Полацак. Сакавік, 1927 г.

## Аб чым зьвініць душа...

А дні ляцяць... мяняецца абліччa.
І на душы ня так зьвініць струна.
І тую ля якой калісьці гнуўся ніцам
Цяпер гатоў зусім не дакранаць.

Што дзень ўсё новыя і новыя усплёскі.
Іначай сэрца б'е і зірк вачэй гарыць.
І тую, што кахаў калісьці ў роднай вёсцы.
Ня помню сам з якое ўжо пары...

Ах, што са мной? душа скажы, скажы мне!
Чаму мяняецца каханьне? для чаго..
Ня раз казаў, што вочы тыя сінія
Я не запомню ў тысячах гадоў.

Чаму-ж цяпер іначай гавару я,
Што чорных воч няма і прыгажэй.
І песьню з палкіх слоў складаю залатую.
Ўсё ёй аднэй... аднэй... аднэй.

Ці можа гэта быць? Ці можа гэта стацца,
Што я другой пачну зноў варажыць...
Што прыдзецца калі мо' разьвітацца
Не дачакаўшы праблiскаў зары.

Не! не! ўжо болей не хачу я..
Каго любіць... і што за чалавек.
Каб кінуцца каханьнем ў рассыпную,
Як ліпа ў ліпені кідае жоўты цьвет.

Аднэй пяю і аб аднэй я мару
І болей не хачу ніколі... нікаго.
Вазьму сваю бязструнную гітару
І напяваць пайду ў даль за сяло.

І там дзе так шумяць старыя ліпы
Праз сьцень гадоў карункамі лістоў,
Я голасам такім пакорным, сьціплым
Зноў запяю... Пра што?—ўсё пра любоў.

А травы слухаць будуць мяне знаю
Мяне-ж ніколі ім не зразумець.
Шаптацца таямніцай будуць з гаем,
Я-ж буду пець, і пець, і пець...

Але прыдзе адна, адна што зразумее,
Яна у сьвеце цэлым прыгажэй.
І на вачох яе стамлёны жар замлее
З уздыхам палкім з песянных грудзей.

Таму пяю, таму і ня сумую
І так упэўнена дарогаю іду,
Што не патрачу сьвежасьць маладую,
Што не патрачу сьветлакрылых дум.

10/VI-1927 г., г. Полацак.



---



* * *

У брыльлянтных росах
срэбрам льлюцца далі.
Дзень палошча косы
ў золаце крышталях.

А па над узгоркам
сонейка сьмяецца,
то прыжмурыць вока,
то адчыніць века.

А ў радзімым полі—
ўсюды льлюцца песьні;
то пяюць таполі;
новай казкай весьняць.

Ня бываць ўжо «голым»
у бядзе, у горы,
бо што ночку болей
чырванеюць зоры.

Бо што дзень, то болей
зелянеюць гоні.
І ў квітнёвых долах
ярчэй кветкі звоняць.

Вецер й то ўпарты
ўжо зьмяніў натуру,—
толькі водзіць жарты
з дзеўкай белакурай.

З дзеўкай белакурай
стройнаю бярозкай
і разносіць ў полі
песянек пялёсткі.

Ня гудзіць, ня стогне
не жальбуе сэрца
І з напевам нудным
ля вуглоў ня ўецца.

Толькі часам штосьці
вецер засумуе,
ціха загалосіць
бы дзе стогн пачуе.
Каля хат патрэцца
і гаворыць: «лётаў,
аж параніў сэрца
я сваё на дроце».

«Там вось за мяжою
льлецца кроў руччамі,
чуў як ў панскіх турмах
бразгацяць ключамі».

. . . . . . . . . . . .

Дык скажы ім вецер
шапані на вушка,
што ім лёс засьвеціць
шчасьцем будзе гушкаць.

Больш ўжо не параніш
вецер сваё сэрца.
Хутка! хутка!... раньне
калі дрот парвецца.

А на родных гонях
дзень даўно казычыць
кветкі ў полі звоняць,
сьпеў бяроз крынічыць...

г. Полацак,
23 красавіка 1927 г.



# Зіма.

Зіма! Зіма!
сінеючая гладзь
мярэшчыцца ў вачох
срабрыстым пералівам.
Хто можа
мой запал
марозным днём
стрымаць,
хто спыніць
мой разгул
вясёласьці бурлівай.

Мая душа
ў марозы б'е
званчэй
прыемней перабор
напрудзьдзя лірных
струн.
Сьнягові мой абшар,
пуховая пасьцель,—
На санках з тваіх гор
маланкай палячу!

Усплываюць чары дум
ўсплываюць чарадой:
сьцень вечароў даўгіх
марозных ў ражаство
як клікаў
я мароз
праз шыбы
на куцьцю,
пужаў марозам дзед
заўсёды перад сном.

Сягоньня
      я сталей
і не заву цябе.
      Бо ўжо ня веру я
ў стары дзядовы сказ.
      Мне толькі
            весялей
марозамі ляцець
      з бубёнцамі ў санях
сьнягові пыл
      ўздымаць!

Закутаўся ў сьнягу
      зялёны мой
            сасьняк.
І хмельна галавой
      ківае ў белы
            сьвет.
Ой, не хачу я лгаць.
Нікому не салгу,
      што я мароз
            люблю
бы той вясновы
      цьвет.

11 студзеня, 1927 г.,
г. Полацак.

---

# Пад панскай няволяй.

(Аповесьць).

I.

Быў ціхі вясеньні вечар.

Сонейка хаваючыся за край зямлі залаціла макушкі хвойніка, а пасьля і зусім зьнікла заставіўшы чырвань на небе. За дзень паветра так нагрэлася, што ўвечары, нібы духам у лазьні, абдавала з галавы да ног. Каровы павольна-здаволеныя, што схавалася пякучае сонца—ішлі дамоў застанаўліваючыся ля плоту скубануць травы. За каровамі йшоў пастух з доўгай пугай і йграў на жалейцы.

Ля ракі ў кустох салавей сьпяваў сваю дзіўна-прыгожую песьню, а дзесь у далі, нібы адгукваючыся салаўю, кукавала зязюля.

Вёскі ўтапіўшыся ў садох пахлі бэзам, цьвітучымі яблынямі і грушамі.

Дзесь за ваколіцай іграла скрыпка кідаючы гукі ў лясную ціш, дзе яны разьліваліся, нібы ручайкі тыя вясною, а пасьля паступова заміралі...

Старыкі вёскі Гацыліха сядзелі на прызьбе і гаманілі.

— У гэтым годзе будзе добры ўраджай!

— Напэўна будзе добры, бо, бачыш, якая цёплая вясна.

— Даўно ня было такой вясны.

— Трэба будзе ў гэтым годзе абгарадзіць добра нівы ў папары ды засеяць вікай ці аўсом.

— Сядзі ты ўжо, Рыгор. Засяваў-бы вось і ў папары, калі тут няма ахвоты й яравое поле засяваць.

— Чаму?

— А таму, што прыдуць палякі і вымятуць усё з засекаў.

— Вось які ты дзіўны, Марцін, на твой погляд дык і зусім ня трэба нічога сеяць. Усё-ж жывы—жывое й думае. А там, канечне, калі прыдуць палякі, дык не мяды будуць, гэта вядомая рэч.

— А нашто ямы з кадзямі?

— Псуецца брат збожжа ў ямах надта.

Гутарку старыкоў абарвалі зык скрыпкі і песьні хлапцоў і дзяўчат, якія ўваходзілі ў вёску.

— Эй, Піліп, прыўрэж на ўсе чатыры. Не шкадуй смыка, валосься хопіць у Юркавага каня!

Скрыпка яшчэ гучней запяяла кідаючы водгук у кусты, дзе ён зьліваўся з салаўінай песьняй.

— Хведар, пачынай новыя прыпеўкі!

„Я сядзела на ваконцам
Ела кашку з малачком.
Міла ўзялі у салдаты—
Я па місцы кулачком.“

— Вось так!

— Давай лепшую!

„Наша поле камяніста—
Недзе ёлачкам расьці,
Нашы дзеванькі фарсісты—
Недзе хлопчыкам прайсьці.“

— Вось як гладка выходзіць—і ў тахту і праўда.

— О! Ён на гэта майстра.

Хлопцы й дзяўчаты ўвайшлі ў самую вуліцу і прыпыніліся ля хаты Піліпа - музыкі, які нарэшце пачаў іграць лявоніху.

Хведар сьпяваў.

Каб я ведаў,
Што Лявона
Дома нет,
Пайшоў-бы я
К Лявонісе
На савет...

— Дзяўчаты, ідзеце вы спаць, заўтраж вам не сьвяты дзень, трэба працаваць, не глядзеце на хлапцоў, у іх няма пільнай работы—пачалі гнаць маткі дачок дамоў.

— Ідзі, ідзі, Ганна. Заўтра на работу трэба рана ўставаць.

— Зараз.

— Ідзі, кажу табе! Досыць пад вуглом стаяць да поўначы—пачала лаяць Ганну матка пакуль тая ня кінула вясёлую кампанію і не пашла дамоў.

— Бедная Ганна. Заўсёды маці яе лае — спачувалі дзяўчаты.

— Чаго там бедная, яна сёньня гуляла з добрым хлопцам—адазваўся Піліп.

— З якім гэта хлопцам?

— Што вы не бачылі, як Тамашонак з Бароўкі праводзіў яе ад «Воўчых Ям» і да самага выгану.

— А-а-а, гэты камуніст, што на пабыўку з Чырвонай арміі прыехаў?

— Гэты, гэты.

— Я тое, што Міхась сёньня як ня солена хлябаўшы пайшоў дамоў—дагадвалася Марылька.

* * *

Калі хлопцы й дзяўчаты разыходзіліся спаць, зара перапаўзала ўжо з захаду на поўнач і крыху пабляднела, а неба ўглядалася на зямлю яснымі зоркамі. За ракой палаў агонь і чырвонымі языкамі лізаў расістую траву. Навокал вогнішча сядзелі хлапчукі-начлежнікі і перакідваліся жартамі. Салавей усё яшчэ сьпяваў выводзячы трэль на розныя лады.

* * *

Ганна ніяк не магла заснуць. Яна варочалася з аднаго боку на другі і, як не старалася адганяць ад сябе думкі, але яны яшчэ больш перапляталіся ў вянок і лезьлі ў галаву. Сёняшняе спатканьне з Янакам ніяк ня выходзіла з галавы.

— Няхай-бы гэта сёньня дзень працягнуўся яшэ хоць на гадзіну, ну хоць-бы на паўгадзіны... Чаму гэта

сёньня сонца так скора закацілася, што я нават ня прыкмеціла... Ах, Янак, Янак, якія яго палючыя вочы... Няўжо гэта праўду ён мне казаў: «Ганна, я цябе кахаю і ніколі не забуду»?... Няўжо гэта так? А мо' ён маніў, мо' ў яго галаве былі якіясь іншыя, цёмныя думкі? Мо' ён... Не, ня можа быць гэтага, Янак не з такіх, ён мне праўду казаў, ён мяне кахае так, як і я яго. Але чаму-ж ён мяне не праводзіў да самай хатай? Ці мо' баяўся каб ня ўбачылі бацькі мае?

«... Я цябе кахаю і ніколі не забуду»... Ах—як гэтыя словы ўпіліся ў сэрца маё. Які жаль, што яго пабыўка скончылася і заўтра зноў едзе на фронт. Ня скора прыдзецца ўбачыцца, а мо'... і зусім ня ўбачымся, мо' ў бойцы з палякамі загіне дзе, і вароны ясныя вочы выдзяўбуць... Заўтра едзе на фронт... Не, трэба яшчэ раз убачыцца. Але як? Хіба ашукаць матку й схадзіць у Арэхаўна заўтра зранку... Ах, Янак, мілы Янак...

* * *

... Чырвань перапаўзла ўжо на ўсход і неяк шырэй распласталася, больш пачырванела, а зоркі кудысь пахаваліся. Салавей, спыніўшы на некалькі хвілін сваю песьню —зноў запяяў з большай яшчэ ахвотай. Заліліся песьняй жаўранкі падымаючыся ў неба. Закукавала зязюля пералятаючы з хвойніка ў гай.

Вось і раньне.

Паказалася маленькім беражком, як кроў, сонца.

— Ганна, уставай кароў даіць, ды ў поле раней трэба выгнаць, а то ўдзень не даюць авадні хадзіць— пачала будзіць Лявоніха дачку.

— Зараз—адклікнулася Ганна ўстаючы.

— Нешта ты сёньня ўстаеш лягчэй як іншыя разы— зьдзівілася Лявоніха.

Як не адклікнуцца адразу, калі Ганна й ня думала яшчэ спаць, ночка каротка, думы каханьня не далі заплюшчыць вочы дзяўчыне.

Ганна хутка вымыла падойнік і пашла даіць кароў.

... Думкі аб тым, што сёньня трэба ўбачыцца з Янакам ня выходзілі з галавы ў Ганны і яна сьпяшалася даіць.

* * *

— Ведаеш што, мамачка, мне трэба зараз схадзіць у Арэхаўна купіць белых нітак і йолку, а то нечым шыць сукенку.

— А хіба-ж тыя ўжо ўсе сшыла, што бацька купіў у Полацку надоечы?—зьдзіўлённа запытала Лявоніха.

— Амаль усе.

— Як гэта амаль! Табе, як я бачу, абы толькі хадзіць і нічога не рабіць, схадзі ў Марылькі пазыч.

— Я ўчора яшчэ пыталася ўва ўсіх дзяўчат, у іх таксама няма.

— Ну ідзі, але толькі глядзі хутка прыходзь, трэба каровам травы аджаць ды даць у паўдзён.

Ганне гэта й трэба было. Дабіўшыся згоды маткі, яна хуценька надзела сьвяточную сукенку, ускінула на плячо беленькую батыставую хустачку і басанож пашла ў Арэхаўна.

Дарогай непакоілі Ганну думкі. Уяўляўся ўчарашні дзень з яго шчасьлівымі для Ганны хвілінамі. Песьні хлапцоў і дзяўчат. Янак...

Разам з шчасьлівым і прыгожым, перад Ганнай уставала й брыдкае, няпрыемнае. У думках зьяўляўся і Міхась, за якога бацькі хочуць выдаць Ганну замуж.

— Ах, як ня хочацца зьвязваць жыцьцё з гэтым чалавекам. Ну што мне яго багацьце: коні, каровы, добрыя будынкі, калоды пчол, калі я на яго глядзець не магу. Ах гэтыя старыя, як яны ня хочуць спачуваць моладзі. Ну чаму-б ім ня даць згоды на мой шлюб з Янакам, з гэтым жыцьцёрадасным чалавекам, хоць ён і бедны?

Яна была ўжо ў некалькіх кроках ад Арэхаўна, калі на сустрэч ей, нібы з зямлі вылез Пілiп—ён нёс плуг з кузьні.

— Добрае раньне Ганна!

— Добрае...

— Куды—ты накіравалася?

Ганне стала неякавата і нават шчочкі раптам пакрыў румянец, а вочкі—дзьве зорачкі, апусьціліся ўніз ад раптоўнага запытаньня, але адказала.

— Тут маю справу—трэба нітак купіць і... іголку...

— А я думаў, што ты йдзешь праводзіць Янака, ён-жа сёньня едзе ў армію.

Ганне яшчэ горш стала неякавата. А Піліп цягнуў.

— Я цяпер вось быў у кузьні і бачыў, як ён ішоў на станцыю, крыху пагаварылі з ім, нават перадаваў табе прывітаньне.

— Ну? Ты, Піліп, ня маніш?

— З якой прычыны? Праўда.

— Дзякую.

— Ну, няма часу стаяць, трэба йсьці.

Піліп адышоўшы некалькі крокаў дадаў.

— А ты напэўна сама ўбачыш яго, ён будзе заходзіцца ў каапэратыў штосьці купляць.

Ганна так была ашаломлена словамі Піліпа, што нават зьявілася думка: «а мо' лепш ня йсьці, мо' вярнуцца, ато местачковыя бабы на языкі падымуць, даведаецца маці... Але не—пайду» і разам, нібы яе хто ўкалоў, шпарка пусьцілася наперад.

Мястэчка Арэхаўна ўсяго з трыццаці дзеравяных, з саламяннымі страхамі, хатак, мела выгляд звычайнай вёскі, якія маюцца на Полаччыне, толькі тым і адрозьнівалася, што мела невялічкую старэнькую царкву, ды чатыры-пяць яўрэяў—гандляроў.

Супроць царквы ў прыватным доме з ганкам быў каапэратыў. На ганку сядзелі дзьве местачковыя кабеты Гапуся і Зося. Яны амаль заўсёды тут сядзелі і выглядалі хто што купляе, у якой вопратцы прыходзіць, распытваліся ў вясковых дзе што чуваць і г. д. Затое і ўсе навіны выходзілі ад Гапусі і Зосі. Яны ўсё ведалі.

Узыходзячы на ганак Ганна жахнулася ўбачыўшы вядомых ёй кабет, якія адна на адну зірнулі і, зьмерыўшы Ганну вачыма з галавы да ног, нешта пачалі шаптацца.

... Ганна нават забылася што і купляць, калі ўбачыла ў каапэратыве Янака, і толькі, калі ён падаючы руку прамовіў:

— Добрае раньне Ганя!

Ганна ружавеючы нясьмела адказала.

— Нішто сабе раньне...

— Раньне добрае, бачыце як сонца прыграваць пачынае—умяшаўся крамнік Паўка.

— А ты, Ганя, за якімі пакупкамі? — зьвярнуўся Янак.

— Дробязь—трэба нітак купіць.

— Я таксама на ад'езд даў угандляваць вашаму каапэратыву.

— Гэта ня кепска, мы цябе будзем успамінаць...

Ганна штосьці далей хацела гаварыць, але прыкусіла язык і нават пашкадавала, што сказала «мы цябе будзем успамінаць», тым больш, што ўсю гэтую гутарку чулі Гапуся і Зося, якія ў гэты час стаялі ўжо на парозе каапэратыву нібы вартаўнікі.

— Дайце калі ласка мне шпульку нітак белых саракавы нумар і йголку—зьвярнулася Ганна да крамніка.

— Гэта можна, я ніколі не адмаўляў дзяўчатам— жартуючы падаў малады крамнік Ганне захінёньня ў паперу ніткі і йголку. Тая сьціснула ў руку і разьвітаўшыся з крамнікам і Янакам накіравалася к выхаду, але Янак аклікнуў.

— Пойдзем разам, Ганя.

— Пойдзем, а толькі-ж мы не ў адну дарогу.

— Нічога, можна зрабіць, што будзе ў адну, тым больш, што цягнік, на якім я паеду прыдзе яшчэ праз дзьве гадзіны.

Янак з Ганнай вышлі на вуліцу й накіраваліся ў бок вёскі Гацыліха.

Гапуся і Зося, зрабіўшы належныя свае вынікі з бачанага, пашлі дамоў.

* * *

— Ганечка, мне так сумна, так ня хочацца ад'яжджаць, што нават перадаць табе гэта не магу. Не магу выказаць...

— Ну чаму? Хіба ты ня хочаш ехаць на фронт?

— Не. Зусім ня тое. Фронту я не баюся—хто-ж будзе ваяваць, калі не такі як я. Справа тут зусім інакшая...

— У чым-жа справа?

Янак крыху замяўся, нібы пачаў шукаць адказу на запытаньне.

— Ну што-ж, ты, маўчыш?

— Мне бачыш цяжка... цяжка раставацца з табою, Ганечка.

Янак раптам сьціснуў руку Ганны.

— Ты не маніш, Янак?

— Не, Ганечка. Не.

Яны прайшлі далёка за мястэчка і дайшлі да маладзенькага гаю, у якім птушкі заліваліся сьпевамі.

Сонца высока паднялося на поўдзень і палячымі праменьнямі рассыпала золата па маладзенькай травіцы.

— Мо' прысядзем тут — зьвярнуўся Янак да Ганны прыхінаючыся да яе. Тут так прыемна, так добра.

— Яно-б сабе... але-ж вось трэба сьпяшаць хутчэй дамоў, маці будзе лаяць.

— За што? Ты-ж па справе пашла.

— Трэба каровам травы к паўдню нажаць.

— А-а-а, дык ты яшчэ ўсьпееш. Сядзем от.

— Ну, сядзем, але толькі на хвілінку.

— Ні больш, бо' і мне некалі, скора цягнік прыдзе.

Янак першы сеў на ўзгорку пад маладзенькай кудравай бярозкай і так моцна пацягнуў Ганну за руку, што тая нават ня ўсьпела сесьці, а ніц павалілася Янаку на грудзі, які пераняў яе абнімкам і пасадзіў ля сябе.

Некалькі хвілін сядзелі моўчкі.

— Ганечка, скажы мне: ты кахаеш мяне?—прыціскаючы да сябе стройную постаць запытаў Янак.

— Нашто табе гэта ведаць?

— Так.

— А што тады будзе, калі я табе адкажу?

— Ай, ня муч ты мяне, Ганечка, скажы, бо, ведаеш, кожная хвілінка дарага...

— Ка-ха-ю — прашаптала Ганна прыхінаючыся да грудзей.

— Ганечка мая.—І моцна ўпіўся губамі ў гарачыя губы Ганны, якая задрыжала ўсім целам.

... Невядома калі-б скончыліся гэтыя шчасьлівыя

хвіліны каханьня, каб не пачуўся дзесь далёка сьвісток цягніка.

Янак раптам ускочыў.

— Ах, ужо цягнік ідзе з Полацку. Трэба йсьці на станцыю.

Ганна ўстала і прытулілася да Янака.

— Ганечка, пішы лісты.

— Ты толькі пішы, а я заўсёды буду.

— Ну, бывай. Трэба пасьпяшацца, а то застануся

— Шчасьліва...

Губы абоіх зноў зьліліся, але пасьля раптам, нібы іх хто раскінуў, адскочылі адзін ад другога і Янак шпарка накіраваўся на станцыю.

Ганна павольна пашла дамоў.

---

II.

Вясна прайшла няпрыкметна, а за ёю й лета падыходзіла к канцу. З уборкай збожжа сяляне ў гэтым годзе ўправіліся раней, чым у мінулыя гады. Ды і ўраджай удаўся добры, якога ня памятуюць нават старыкі. Жыта сьцяблом таўстое і высокае, а каласы нібы бізуны тыя. Гарох, віка, авёс, ячмень, бульба і іншае збожжа ўрадзілася таксама добрае.

Сяляне бедавалі сабраўшыся ў сьвяты дзень на прызьбе.

— І дзе толькі збожжа захаваць.

— Ня інакш як у зямлю прыдзецца закопваць.

— Яно-та ў зямлі псуецца надта, але больш некуды акрамя як ў зямлю.

— Пры першым наступленьні Зьмітрок-жа Павульскі захоўваў у зямлі, дык усё жыта было струхлеўшы, нават скаціна не хацела есьці.

— Як там ня будзе, а рыхтавацца да сустрэчы панскіх бізуноў трэба.

— Але... бо ўжо з кожным днём чутней становяцца стрэлы гармат.

— Нашы напэўна адступаюць.

— Адступаюць, вядома. Учора забягаўся Сымонаў

сын, едучы на фронт, расказваў, што чырвоныя адступаюць, мала, кажа, снарадаў і хлеба...

— Эх, трэба-б дапамагчы...

— Як там з дапамогай, а рыхтавацца самім трэба. Трэба захоўваць збожжа, кажухі...

— А наконт жывёлы больш усяго трэба падумаць

— Прыдзецца ў Гарэлае балота зганяць, як і раней...

— Ня інакш...

Гутарка на конт захаваньня збожжа, вопраткі і скаціны ў час наступленьня палякаў ішла па ўсіх вёсак. Жанчыны рыхтавалі закопваць у зямлю палотна й летняе адзеньне.

Стрэлы гармат набліжаліся. Чырвоныя адступалі.

* *
*

... Зьнікла лета з сваёй прыгажосьцю. Прышла шэрая, маўклівая восень з сьлязьлівымі днямі. Вецер—хуліган паабрываў лісьцё на дрэвах. Сумна, няпрыемна, куды тольκі ні глянеш.

Разам з чорнаю восеньню прышлі й белапалякі і пачалі наводзіць «парадкі», ад якіх застагналі пахілыя вёскі.

Сустрэлі сяляне гора.

Больш усяго сустрэліся з белапольскімі зьдзекамі тыя сем'і, з якіх хто небудзь знаходзіўся ў Чырвонай арміі. Польская дэфэнзыва сачыла за кожным крокам гэтай сям'і, прыходзілася плаціць асобны «падатак».

Першы пазнаёміўся з панскім бізуном Тамаш з сваей сям'ёй з-за Янака. Дэзэртыры, якія уцяклі з арміі, кулацкія сынкі і мясцовая шляхта пачалі даказваць у гміну аб тым, што Янак знаходзіцца ў Чырвонай арміі, які нібы трымае сувязь з бацькамі.

Некалькі разоў Тамаш зьяўляўся ў гміну да войта, даваў тлумачэньні, насіў сала, грошы...

Аднойчы позным вечарам, Тамашовы ўжо ляглі спаць, толькі маленькая газьнічка змроклым сьветам гарэла на палічцы ля сьцянь,—разам пачуўся пад вакном гучны, злосны голас.

— Гэй, господаж, адчыняй, тшэба да хаты зайсьці!

У хаце ўсе пазналі знаёмы голас польскага паручніка, які забраў з жаўнерамі авёс і курэй. Усе перапалохаліся, але пашоў старык-Тамаш кашляючы адчыняць дзьверы.

Толькі пасьпеў адчыніць, як у хату ўскочыла пяць узброеных жаўнераў, а шосты паручнік і скамандваў:

— Рэнкі да гуры ўшысткі!

Тамаш, ведаючы крыху польскую мову, адразу падняў угору абедзьве рукі, а жонка і дзеці, ускочыўшы з пасьцелі, кінуліся ў плач з перапалоху.

— Рэнкі да гуры, псякрэў—бальшавічка!—і ўпіўся бізун у заплаканы твар Аўдоцьці—Тамашыхі, пырснула гарачая кроў на халодную падлогу, абамлела кабета ля ложку, а дзеці загаласілі на ўсю хату.

— О, псякрэў, прыкідаецца, падла!—і рука ў пальчатцы зноў замахнулася апусьціўшы бізун над сьпіной ляжачай на зямлі кабеты, рассекла кужэльную сарочку і заставіла на белым целе крывавы адбітак бізуна.

Тамаш стаяў ціха ў парозе, апусьціўшы вочы ў зямлю і нават не зьвяртаў ніякай увагі на тое, што жонка ляжала бяз памяці, а дзеці лілі халодную ваду на галаву.

Жаўнеры пераварочвалі ўсё ў хаце і лепшыя рэчы адкладвалі ў бок.

— Кажы, стары, псякрэў, дзе твой сын камуністы знаходзіцца!—зьвярнуўся ўрэшце паручнік да Тамаша і разам з запытаньнем ударыў яго бізуном па галаве.

— Няма ў мяне, паночак, такога сына, мая вось тут уся сям'я—чуць пераварочваючы язык адказаў Тамаш, а сьлёзы гарачыя мімавольна выкаціліся з запаленых вачэй на худыя шчокі.

— Хлусіш стары бальшавік, кажы праўду, а то застшэлю як сабаку!—закрычаў паручнік з пенай у роце і так моцна штурхануў Тамаша, што ён снопам паваліўся ў качарэжнік ударыўшыся галавою аб печ.

— Тшэба ехаць!—скамандваў паручнік жаўнерам і вышаў з хаты, а за ім і жаўнеры забраўшы розныя хатнія рэчы.

Тамаш з жонкаю доўга не маглі ачунець і ляжалі на падлозе, а дзеці сядзелі навокал бацькоў і плакалі...

Сумным сьпегам гарэла газьнічка.

* * *

Доўгія, цёмныя асеньнія ночы жудасьць наводзілі. Пражыць адну ноч—усё роўна, што пражыць некалькі год, тым больш, што прыходзілася малому і старому быць кожную хвіліну на варце ці дома ля хаты, ці ў балоце ля жывёлы.

Гарэлае балота для Арэхаўскай акружыны зьявілася прыхільнікам сялянскай жывёлы. Тут і ўдзень і ноччу быў нібы кірмаш. Старыкі вартавалі жывёлу, а дзяўчаты й маладыя кабеты хаваліся ад жаўнераў.

Эх, Гарэлае, Гаралае. Доўга цябе не забудуць Арэхаўскія—беларускія вёскі.

Доўга ў сэрцах сялян—беларусаў будзе захавана памяць і каханьне да цябе за тваю паслугу ў памятныя для Полаччыны, для ўсей Беларусі, 1919—1920 гады.

* * *

Была цёмная ноч як ніколі. Імжыў дробны дождж. Коні й каровы прызвычаіўшыся ўжо, ціха, нібы ведаючы, што ня трэба падаваць зыку—стаялі ля кустоў і елі пасохшую траву. Пад галінаватай ёлкай ля разьведзенага вогнішча сядзелі мужчыны й хлопцы Мужчыны ў паўголаса гаварылі пра дзеі палякаў, пра іх зьдзекі, успаміналі бальшавікоў, а хлопцы часам і пра дзяўчат вялі гутарку.

— Але вось цікава як гэта ў Картавёнках на вечарынцы Ганна адчысьціла Міхасю—пераварочваючыся на другі бок зьвярнуўся да Пятруся Піліп.

— Яму так і трэба, няхай ня лезе да дзяўлыны.

— Канечне...

Дэзэртыр пракляты, прадажнік сялянства.

— Ты думаеш праз каго ўчарашнюю ноч каталі Тамаша й Аўдоцьцю.

— А праз каго?

— Ды праз гэтага ж самага дэзэртыра Чырвонай арміі—Міхася, ён даказаў у гміну аб тым, што Янак зна-

ходзіцца ў Чырвонай арміі, вось і прыехалі жаўнеры з паручнікам, катавалі і пазабіралі лепшыя рэчы, кажухі, а сёньня забралі дзьве авечкі й карову.

— Ы-ых, сволач! Прадажная шкура!

— Ен-жа знаходзіцца агэнтам польскай дэфэнзывы, затое ў яго бацькі нічога й не забіраюць.

— Сволач, морда кулацкая!..

— Ну, вы, там, разгаманіліся як на вясельлі, памятуйце дзе знаходзіцеся—занепакоіўся стары Юрка.

— Чаго палохаешся, тут сам чорт ня знойдзе нас, а калі-б хто і йшоў, дык вартаўнік наш нашто.

Усе замоўклі. Піліп пачаў падкідаць у вагонь смалаватыя карчы, ад якіх кінуўся чорны едкі дым. Дождж перастаў ісьці. Сьціх вецер. Дзесь недалёка ў вёсцы пачуўся голас і плач жанчын, з якога магчыма было толькі разабраць:

— Мілыя, паночкі, за што-ж біць...

— Застаўце на малых дзетак... з голаду памром...

Разам з плачам жанчын пачуўся стрэл з вінтоўкі і вясёлы рогат жаўнераў.

— Ы-ых душагубы, супакою няма катам—скрыгочучы зубамі прагаварыў Панас папраўляючы галавешку на вогнішчы.

Кругом зноў стала нямая цішыня. Ля вогнішча ўсе сьціхлі. Але праз некалькі хвілін недалёка ад вогнішча пачуўся трэск сухога сучча і шолах апаўшага лісьця—нехта йшоў. Ля вогнішча адразу ўсе заварушыліся і пачалі хавацца за кусты. Піліп прысеўшы на кукішках моцна сьціснуў у руках адрэзак вінтоўкі. Крокі чуліся ўсё бліжэй і бліжэй і ўрэшце да вогнішча падышла Ганна.

— Вось гэта ты, Ганна, а мы, ведаеш, крыху й спалохаліся пачуўшы твае крокі.

Усе павылазілі з-за кустоў да вогнішча.

— Ды чаго-ж ты маўчыш, Ганна, ці мо' небясьпека якая? Кажы хутчэй.

— Не, нічога—пачала Ганна — вы не палохайцеся, адной мне толькі няшчасьце...

— Якое?—разам запыталіся ўсе.

— Прыехаў Міхась з сваім бацькам да мяне ў сваты і мае бацькі, я ведаю, дадуць згоду, а я...—і Ганна заплакала.

—Вось якая ты дзіўная, а ты ня йдзі за гэтую паскуду—са злосьцю раіў Піліп разважаючы рукамі.

— Лёгка сказаць—ня йдзі, ён-жа пагражае даказаць у гміну аб тым, што я кахаюся з Янакам і тады зробяць з маімі бацькамі тое, што й з Янакавымі...

Ганна зусім разрыдалася.

— Ціха, Ганна—пасьля кароткай маўчанкі пачаў Піліп—ты вось што зрабі: ты зусім не адмаўляй, а толькі адкладзі вясельле надалей, ну, прыблізна, да вясны, ці да тройцы, а там мо' зьмены якіч будуць, мо' чырвоныя прыдуць.

Піліп раіў Ганне з нейкай упэўненасьцю, нават пасьля кожнага, амаль, слова дабаўляў—ручаюся—нібы вось ведаючы міжнародныя абставіны.

Ганна крыху праясьнілася ў твары.

— Дзякую, браточак Піліпка, я так і зраблю, адкладу надалей, а там..

— Вось бачыш, як я хутка дагадаўся параіць табе, затое, як будзеш выходзіць за Янака—дасі кілішак гарэлкі выпіць—жартаваў Піліп.

Ганна яшчэ раз падзякавала Піліпу і зьнікла ў кустох.

Мужчыны зноў распачалі гутарку хто пра што, а Піліп лежачы на баку, пачаў ціха высьвістваць вясёлую польку. Пасьля парады Ганне ён адчуваў сябе неяк надта добра.

* * *

У Лявона ў хаце сёньня быў сьвяточны выгляд. Замест газьніцы гарэла вялікая лямпа, стол быў засланы прыгожым абрусом. Лявоніха надзела сьвяточную куртку і новую саматканую спадніцу. Ля стала сядзеў з рыжай барадой, чырвоны ў твары мужчына—гэта вядомы ў Арэхаўскай акружыне заможны гаспадар Мірон—бацька Міхася. Ля яго сядзеў паджылы хлопец год трыццаці, гэта Міхась—кавалер Ганны. Тут-жа сядзеў і Лявон у белай кашулі. Лявоніха чагосьці непакоілася, паглядала ў вакно.

— Ну, Лявоне,—пачаў Мірон пасьля доўгай гутаркі на палітычныя тэмы—досыць гаманіць аб тым, што нас мала тычыцца, трэба бліжэй да справы.

— Калі ласка, калі ласка—адказаў Лявон ведаючы наперад аб чым ідзе гутарка.

— Ну, дык от—мой сын спадабаў тваю дачку і хоча ўзяць сабе за жонку...

Кацярына яшчэ горш занепакоілася аб тым, што доўга няма Ганны і кожную хвіліну паглядала ў вакно.

— Гаспадарку-ж маю і сына Міхаську ведаеце—хваліўся Мірон—можна жыць добра ..

На ўсё тое, аб чым гаварыў Мірон, Лявон з жонкай толькі давалі згоду.

Міхасю стала неякавата, што старыкі заняліся гутаркай, а ён сядзіць адзін і загаварыць яму няма з кім. Ен часьцей пачаў паглядаць на гадзіньнік.

— Ну дык, Лявоне, і ты Кацярына, слова за вамі—нарэшце запытаўся Мірон.

— Мы згодны, мы рады—у вадзін голас адказалі Лявон з жонкай.

— Ну, калі так, дык і па кілішку можна выпіць—і з гэтымі словамі Мірон вышаў за дзьверы і скора зьвярнуўся з вялізнай пляшкай самагонкі.

Кацярына прынялася рыхтаваць вячэру. Прынесла вялікі скрутак каўбас і кавалак саланіны. Скора на прыпячку запалалі шчэпкі.

Лявон з Міронам спыніўшы на некалькі хвілін гутарку—зноў загаманілі пускаючы ў столь дым самасейкі.

— Але-ж во вы накурылі, што нават ля печы нельга стаяць, вочы на лоб верне...

Кацярына штосьці хацела далей гаварыць, але спынілася пачуўшы скрып дзьвярэй

У хату ўвайшла Ганна.

— Вось як ты хутка зварочваешся!—накінулася сьціху Кацярына на дачку.

— А хіба-ж я забавілася?

— Ужо дванаццатая гадзіна.

— Мы толькі што скончылі з Марылькай шыць сукенку—салгала Ганна матцы.

Зараз вячэра была гатова. Усе ўселіся кругом стала. Заходзіў кілішак з самагонам, пашла шумлівая гутарка. Ганна сядзела апусьціўшы галаву, нічога ня ела, адмаўлялася кожны раз ад кілішка, калі ёй падстаўляў Міхась.

Падпіўшы, Мірон зноў пачаў хваліцца.

— А жыцьцё, сваток, тваей дачцы ў мяне будзе райскае...

Гэтыя словы білі вострым нажом у сэрца Ганне і яна цяжка, цяжка уздыхнула. Сьлёзы пасыпаліся з вачэй.

Вячэра надыходзіла к канцу.

Ужо некалькі раз прасьпяваў певень. На дварэ ўзьнялося нянасьце. Пашугаў вецер сарваўшы буйныя кроплі дажджу, якія ўдарыліся аб шыбы вакна.

— Вось што, дарагія сваток і сваціца—зноў пачаў Мірон—трэба дамовіцца наконт вясельля... Ведаеш-жа, я абы як не хачу, патрэбна падрыхтоўка.

— Вядомая рэч, і мы такога погляду—падцьвярдзіла Кацярына.

— Трэба спытацца ў маладой, як яна наконт гэтага.

— Я вось што скажу: трэба адкласьці вясельле да тройцы.

— Ого!—зьдзівіўся Мірон—чаму гэта?

— Няма спраўкі.

— Што ты, Ганна, выдумала?—пачала шаптаць на вуха маці

— Не магу я, мамачка, цяпер: ні абрусоў ня выткала, ні рушнікоў... трэба адкласьці, трэба падрыхтавацца.

— Яно й гэта праўда, сорамна-ж ісьці ў чужую хату абы як, а галоўнае ў Миронаву сям'ю.

— Ну, дык як-жа сваціца?

— Трэба ўсё такі адкласьці да тройцы, ня спраўка ў дзяўчыны.

— Ну што-ж, няхай, пакарміце зіму вы—нібы жартуючы згадзіўся Мірон гладзячы шырокую як рыдзель бараду.

У Ганны нібы камень зваліўся з сэрца, калі ўчула згоду.

А ў думках ў яе было адно: «не пайду за Міхася, буду чакаць Янака».

Дзякавала Піліпу, які параіў пайсьці на такі шлях

* * *

Пачынала днець, калі Мірон з сынам ад'язджалі ад Лявона дамоў. Скрозь шызы туман прабіралася полымя выбухшага пажару падпаленай вёскі. Даносіўся плач жанчын і дзяцей, чутны былі крыкі жаўнераў і піск сьвіньней, якіх забіралі.

Вецер сьціх, нібы прыслухоўваўся да плачу, нібы любаваўся полымем пажару, нібы цікавіўся рабункам жаўнераў.

... Эх, вёскі вы, вёскі беларускія, толькі вы працярпелі такія зьдзекі ад польскіх катаў.

... Эх, сэрцы вы, моцныя мужыцкія, толькі вы можаце з гонарам пераЖываць ліхія гадзіны.

... Эх, Беларусь, краіна родная, колькі зьдзекаў панскіх перанесла ты...

* * *

Хутка восень замяніла халодная зіма з завеямі. Сьнег белым дыванам услаў зямлю. Пазавявала ўсе сьцежкі й дарогі. Куды толькі пойдзеш ці паедзеш—сьляды, нікуды не схаваешся, усюды знойдзе цябе каму гэта патрэбна.

Асірацела Гарэлае балота. Сялянам небясьпечна стала захоўваць жывёлу ў балоце, жаўнеры па сьлядох пачалі знаходзіць яе і забіралі, бязлітасна катавалі таго, хто захоўваў.

Больш усяго плакалі на халодную зіму дзяўчаты й маладыя кабеты, якім недзе было схавацца ад «малайцоў» польскай арміі. Кожны вечар жаўнеры бралі ў хурманкі сялян і сабіралі па вёсках дзяўчат на вечарынку, а якія адмаўляліся—лічыліся бальшавічкамі і супраўціўніцамі польскай улады.

Здалёку яшчэ запрыкмеціўшы жаўнера вёска пачынала дрыжаць нібы ліст той на асіне. Кожны ведаў, што ня з добрымі думкамі зьяўляецца гэты «госьць». Ня сала забіраць, дык кажухі, не хурманкі браць, дык за дзяўчатамі на вечарынку.

І дрыжалі сяляне, сялянкі і моладзь...

І плакалі беларускія вёскі разам з зімнімі завеямі...

III.

Набліжалася вясна...

Занепакоіліся штосьці палякі, пачалі пільна падвозіць снарады й куляметы на фронт к Полацку. Пільней пачалі сачыць за прымежным сялянствам. Запрацавала энэргічней дэфэнзыва.

Сяляне па ранейшаму знаходзіліся на службе ў польскага войска. Днём падвозілі на фронт вайсковыя запасы і спажыткі, а ўвечары езьдзілі з жаўнерамі за дзяўчатамі на вечарынкі.

Пачалі грымець стрэлы гармат, якія з кожным днём паўтараліся ўсё часьцей і часьцей. Стралялі палякі па Полацку, часам і чырвоныя адказвалі.

Стрэлы выклікалі розныя гутаркі сярод сялянства й польскай шляхты.

Сялянства ціха між сабою гаварыла:

— Ці ня чырвоныя гэта наступаюць толькі.

— Вось каб-ды так, вось каб-ды наступленьне.

— Кажуць, што бальшавікі ня хочуць ваяваць—хочуць мірыцца, але вось яны ня міраццa.

— Палякі хочуць далей ісьці, хочуць узяць Віцебск, Смаленск...

— Бачыш, чаго захацелася, а хвігу яны ня хочуць, а забранае аддаць ня хочуць яны?

— Ты, Сымон, не кажы гоп не пераскочыўшы.

— А што-ж там, ня век-жа ім панаваць тут, ды рабаваць.

— Калі чуць чаго, дык і мы ў бойку павінны пайсьці, вызваляцца з-пад панскага ўціску.

Зусім іншае абгаворвала польская шляхта сабраўшыся ў гміну ці ля касьцёлу ў нядзелю.

— Чуў, пан Юза, што наша войска бэндзе настэмпаць на бальшавікаў?

— Ото добжэ, тшэба паказаць гэтым псякрэвам, што мы маем вартасьць.

— А адкуль, пан Франук, гэта чуў?

— Да мяне ўчора заяжджаў войт з паручнікам і за кілішкам «Зубрэўкі» размаўлялі аб становішчы на фронце. Паручнік апавядаў, што нашы пойдуць да Смаленску,

а там ужо будуць бачыць ці далей ісьці, ці мірыцца з бальшавікамі на карысных для нас умовах.

— Гэта добжэ.

— Але вось чаго пан Забела непакоіцца і вывозіць каштоўнасьць з маёнтку Арэхаўна?

— А ведаеш, пан Станіслаў, ён едзе ў маёнтак сваёй жонкі, які знаходзіцца ля Варшавы, тут яму ў Арэхаўне няма чаго быць затым, што мужыкі пры бальшавіках забралі коні, кароў, нават вокны з пакояў павыдзіралі...

* * *

... Сонейка з кожным днём паднімалася на небе усё вышэй і вышэй. Ня вытрымаў сьнег—чарнець пачаў. Палі пачалі паказваць сонцу свае чорныя хрыбты, якія з кожным днём рабіліся большымі, шырэйшымі. Загаманілі ручайкі. Зашумелі рэкі ўносячы сваімі водамі пліты лёду. У паветры жаўранак пачынаў пець, то паднімаючыся ўверх, то зноў куляй апускаючыся да зямлі.

— Рабілася неяк прыемна, на хвіліну забывалася гора людзкое, калі пачынаў думаць толькі аб тым, што ідзе вось квяцістая вясна, калі думаў толькі аб аксамітных, з шаўковай траўкай, лугох. Хацелася больш жыць, хацелася сьпяваць хвалебныя песьні вясьне, хацелася разам з жаўранкам падняцца ў нябесную сінь—убачыць увесь сьвет, убачыць радасьць людзкую.

І наадварот, калі ўспамінаў панскія зьдзекі, паручніка з бізуном, рабункі жаўнераў—брыдкі быў увесь сьвет, хацелася памерці. Зьяўлялася нейкая зайздрасьць да тых, што недалёка за мяжой жывуць вольнымі людзьмі, дзе разьвяваецца чырвоны сьцяг. І кожны дзень такія настроі, кожны дзень такія думкі.

Час ішоў сваей чаргой.

А вёскі плакалі.

А сяляне стагналі пад панскім уціскам.

* * *

Гарматы пачалі, амаль, бязупынна страляць.

Толькі зранку хвілін на некалькі спыняцца, а пасьля зноў пачынаюць кашляць шасьці й васьмі дзюймовыя. Па-

лякі пільна падвозілі снарады. Сялянам ня было часу брацца араць поле і рыхтавацца да сяўбы. Былі ў хурманках—падвозілі снарады на фронт.

Кожны дзень хадзілі ўсё новыя й новыя чуткі наконт вайны. Адны гаварылі, што скора прыдуць бальшавікі, а другія гаварылі, што палякі перайшлі Дзьвіну, занялі Полацак і пойдуць далей.

Жаўнеры менш пачалі захапляцца вечарынкамі й дзяўчатамі. Уся ўвага была зьвернута на Полацак.

Кожны чагосьці чакаў. У сялян валілася работа з рук, не хацелася нічога рабіць. Хацелася ведаць якая-ж будзе ўлада: ці ўлада польскіх катаў, ці саветы і ў залежнасьці ад гэтага, будаваць сваю гаспадарку.

* * *

Май месяц.

Сонца палка цалавала зялёныя лугі. Малады гай апрануўся ў пахучае лісьцё. Пгушкі заліваліся сьпевамі.

Сяляне надта былі зьдзіўлёнымі, калі ўбачылі, што жаўнеры зранку яшчэ пачалі зьнімаць тэлефоны, але нашто зьнімаюць—былі розныя гутаркі.

— Эх, напэўна далей пойдуць.

— А мо' адступаюць?

— Што-небудзь ды ёсьць.

Але калі ўбачылі, што войт вывозіць з гміны ўсе дакументы й паперы ў бок Маладэчна—была ўва ўсіх упэўненая думка аб тым, што белапалякі адступаюць.

Жаўнеры па аднаму плылі з пад Полацку, хто з вінтоўкай, а хто і бяз вінтоўкі.

Адступалі.

Вестка аб адступленьні белапалякаў абляцела ўсе вёскі. Сяляне захоўвалі не забраных яшчэ коняй, кароў і іншыя рэчы. Гарэлае балота зноў прытуліла да сябе сялянскую жывёлу. Хаваліся мужчыны. У вёсках засталіся старыкі, ды дзеці.

Цэлы дзень жаўнеры непарадкам адступалі.

Увечары на станцыі Загацьце палякі падпалілі склад са снарадамі, які сваім грукатам аглушыў вёскі, шкло сыпалася з вокан, дрыжэла зямля, асьветленая полымем пажару гарэўшых на станцыі будынкаў.

Была ўжо ноч з усыпанымі на небе зоркамі. Полымя яшчэ цягнулася доўгімі языкамі к небу.

Ціха было. Нячутна гармат.

Вёскі ня спалі. Вёскі былі на варце.

* * *

Усход пачырванеў, засьмяяўся.

Сонейка паказалася з-за зямлі, брызнула праменьнямі на палі й вёскі. Дзесь ў небе зьвінеў жаўранак.

Белапалякі ноччу яшчэ адышлі бяз боек і заставілі недагарэлымі будынкі на станцыі.

— Хіба ўжо адступілі?

— Але чаму-ж чырвоных няма?

Задаваліся пытаньнем сяляне.

Чагосьці чакалі.

Чакалі Чырвоную армію.

Рыхтаваліся да сустрэчы.

Ля Арэхаўна на крыжавой дарозе вакол засланага белым абрусом століка, на якім ляжала булка хлеба з сольлю—стаялі сяляне, сялянкі і моладзь. Ціхі ветрык калыхаў на палцы чырвоны кавалак крамніны. Дзеці бегалі вакол дарослых і весяліліся, пялі.

— Зараз цырвоныя прыдуць, зараз цырвоныя прыдуць!

— Сьцёпка, глядзі, во цырвонаармеец—і малыш—10—12 год браў на плячо палку і размахваючы ручонкай шагаў узад і ўперад.

Чакалі.

Сонца паднялося ўжо на поўдзень і так шчыра кідала праменьні на засланы абрусом стол і сялян, нібы й яно сустракала Чырвоную армію.

Дзеці пусьціліся ў выведкі па дарозе на Полацак і зьвярнуўшыся даклалі перабіваючы адзін аднаго ў гутарцы.

— Ідуць, ідуць!..

— Цутны сьпевы!

— І духавая музыка грае!..

Дзеці пачалі скакаць з большай яшчэ ахвотай.

— Зараз убачышся з Янакам—кідаў Ганне жарты Піліп.

— Ну, ты ўжо маўчы, ён мо' і забыўся на мяне.

— Не забыўся, ўбачышся калі толькі гэтым фронтам ідзе, не на Вулу.

— Ідуць!!!

Зноў закрычалі дзеці.

Па дарозе з лесу падняўся пыл, які цягнуўся на Арэхаўна.

Зыкі музыкі станавіліся чутней і чутней. Але з паднятага слупам пылу здалёку нельга было ўгледзець, хто ідзе—коньніца ці пяхота.

— Напэўна коньніца—здагадваліся

У сажнях у паўтараста ад Арэхаўна музыка сьціхла і адзін з чырвонаармейцаў пусьціўся на кані ў выведкі, а астатнія застанавіліся. Не даехаўшы некалькі сажняў да сялян чырвонаармеец крута павярнуў назад, а калі даехау на месца-музыка зноў зайграла кідаючы рэха ў зялёны гай.

Ужо ясна было відаць, што наперадзе на конях едзе некалькі чалавек з чырвонымі сьцягамі, а ззаду доўгай стужкай ідзе пяхота.

Вось ужо ў некалькіх кроках.

— Ах... сыночак мой міленькі, Яначак!—успляснула рукамі Аўдоцьця ўбачыўшы Янака на кані. Зьявіўся нейкі нязвычайны сьмех у маткі, гарачыя сьлёзы з вачэй пакаціліся па худасочнаму твару.

— Збавіцель наш!—і Аўдоцьця павалілася пад каня, на якім сядзеў Янак.

Ганна стаяла як слуп ня ведаючы, што рабіць як трымацца ў нечаканыя хвіліны сустрэчы з Янакам. Ей здавалася, што ўсе на яе зьвяртаюць увагу. Янак паказаўся ёй нейкім прыгажэйшым, як быў раней. Русыя кудры з-пад шапкі хмелем віліся, на грудзях камісарскі значок, шабля пры боку—усё гэта дадавала яму нейкую асаблівую прыгожасьць.

Янак зьлез з каня, падняў матку з зямлі, якая павісла ў яго на шыі. Тамаш няпрыкметна выціраў рукавом сьлёзы. Доўга ня бачыліся, перажылі шмат чаго, а сустрэліся—і гаварыць нібы няма чаго. Аўдоцьця толькі паўтарала:

— Сыночак, ты мой, міленькі, збавіцель ты наш!

Маці не находзіла іншых слоў выказаць сыну ўсё тое, што давялося перажыць ад белапольскай акупацыі.

Янак павітаўся з маткай, з бацькам, з суседзямі і ўрэшце падышоў да Ганны.

— Як-жа ты, Ганечка, жывеш?—запытаў ён.

— Жыву як гарох той пры дарозе, ружавеючы апавядала Ганна—увосень бацькі хацелі выдаць за Міхася, але адклалі вясельле да тройцы па маёй прапанове... Я не згаджалася зусім выходзіць за яго, але бацькі... Але цяпер і бацькі згодны са мной, абзываюць яго дэзэртырам.

— А дзе ён цяпер?

— Хаваецца па лясох.

Сяляне згубіліся сярод чырвонаармейскага натоўпу. Кожны апавядаў, якія давялося перажыць зьдзекі пад панскай няволяй. Сялянкі частавалі чырвонаармейцаў малаком.

Было нейкае агульнае сьвята, радасьць была.

— Ну, Ганечка, праз тыдзень вазьму водпуск дні на тры і тады расьпішамся... А цяпер трэба ехаць наперад, не такі час каб па многу адпачываць.

— Таварышы, трэба наперад!—скамандаваў Янак садзючыся на каня.

Чырвонаармейцы падрыхтаваліся. Чакалі далейшай каманды, а калі прагучэла «Наперад арш»—зноў закалыхаліся доўгай стужкай чырвонаармейскія шэрагі.

Янак ад'ехаўшы некалькі крокаў кінуў:

— А ты, Ганна, праз тыдзень чакай!

Гром музыкі рэхам разьліўся па ваколіцы Арэхаўна.

... Сяляне доўга стаялі і глядзелі ў сьлед адыходзячай ў бок Маладэчна Чырвонай арміі.

А сонейка кідала сьпёку на цёмнасінія дываны жытнёвых палёў.

А сонейка сьмяялася.

* * *

Шыбка йшлі дні.

Сотнямі сыпаліся скаргі сялян мясцовай уладзе Саветаў-Рэўкому на падзеі белапалякаў у час акупацыі.

Шляхта, якая засталася, гадзінамі сыкала на Савецкую ўладу.

Сяляне сеялі ярыну. Камітэты беднаты дапамагалі бясконным і тым, у каго ня было насеньня.

Тыдзень, у які Ганна чакала Янака, здаўся ёй месяцам. Зьявіліся розныя думкі.

— Мо' ён маніў?.. А мо' дзе забіты ў бойцы?..

Па вёсках пашлі розныя гутаркі наконт Ганны. Гапуся і Зося пускалі ўсё новыя й новыя чуткі.

— Дзе там—ён яе ня возьме...

— Камісар, ды каб зьвязваўся з гэтай галячкай...

— Сапсаваў недзе дзяўчыну і ўсё...

— Будзе яна памятаць зялёны гай і кудравую бярозку...

Гутаркі кабет душылі Ганну. Кожны дзень выходзілі ўсё новыя й новыя плёткі. Адно толькі непакоіла кабет вясковых, што з таго часу, як Гапуся з Зосяй бачылі Ганну ў абнімках Янака прайшло ўжо шмат—цэлы год, а на Ганне гэта не адбілася, яна была па ранейшаму румянай, са звычайнай постацьцю.

Прайшло ўжо два тыдні, як Арэхаўцы сустракалі Чырвоную армію.

Дзень быў прыгожы як ніколі. Зранку прайшоў дробны, цёплы дожджык, а пад поўдзень стала ціха, ціха. Пякло сонца.

Ганна з сярпом ішла ў Гарэлае балота аджаць каровам травы. Як толькі яна яшчэ выходзіла з вуліцы, дык запрыкмеціла, як нехта верхам на кані, з-пад Бароўкі, шыбка ехаў проста ў Гацыліху, але Ганна не зьвярнула на гэта ніякай увагі—ці мала хто—мо' палітрук едзе рабіць даклад сялянам.

Дайшла ўжо да сьцежкі, якая вядзе ў Гарэлае. Яшчэ раз зірнула на ездака і раптам супынілася.

— Няўжо Янак?...

Яна дагадвалася па русых кудрах. А незнаёмы ехаў проста насустрэч Ганне. Дзявочае сэрца пачало часьцей біцца...

— Так і ёсьць—ён. Ах, а я як на тое сёньня чысьцейшае й сукенкі не адзела.

Дарма, што Ганна была ў будзённай замусоленай каля працы куртцы й спадніцы, а Янак яе адразу спазнаў.

— Ганечка!..

— Янак!..

Вырвалася з грудзей у абодвых.

— Ну, вярніся, Ганечка, назад. Пойдзем да тваіх бацькоў. Сёньня трэба расьпісацца.

Ганна ня ведала што адказаць, але вярнулася.

Ззаду йшоў порскаючы «Гнядко» Янака.

— Дык ты, Ганечка, кажаш, што бацькі ўжо ня супярэчаць? Згодны?

— Ня супярэчаць, яны здаволены...

— Усё такі зразумелі, што не ў багацьці шчасьце...

* * *

... Дзень хіліўся к вечару.

Янак з Ганнай зварочваліся з Рэўкому дамоў.

— Во, цяпер мо' прыкусяць языкі доўгія Гапуся і Зося.

— Канечне прыкусяць, а то раней дык хоць ты й з хаты ня выходзь.

Ішлі ціха любуючыся харастмом вясны.

Цёмнасінія жытнёвыя палі адбівалі паклоны...

Г. Полацак, 1927 г.

# Зьвіні, сталь, зьвіні.

Я люблю сталі звон,
зьзяньне сотні фабрычных пячэй,
люблю грукат ў заводзе
машын і калёс,
люблю тысячы
рук і вачэй,
што зьвязалі з варштатам
свой лёс.

* * *

Молат прагна цалуе
нагрэтую сталь
раскідаючы іскры
ў бакі...
Гукі—песьні
разносяцца ў даль:
на палі,
на лугі ля ракі.

Эй! зьвіні, сталь,
мацней, ты, зьвіні,
чырвань—іскрамі
кідай імжы,
бо спаткалі мы
новыя дні,
бо так радасна нам
сёньня жыць.

Няхай сыкаюць ворагі-гады
на нас,
хай праклёны нам шлюць
кожны дзень,—
не адняць ім ніколі
магутнасьці ў нас—
рассыпаць па краіне
сталёвую звень.

* * *

Завадзкія гудкі,
сталі звон,
рогат пасаў,
машын і калёс—
палюбіў з тымі я,
хто з малых сваіх дзён
зьвязаў з стальлю
й варштатам свой лёс.

**г. Полацак, 1927 г.**



# Пажар.

Усход дыміцца, ў полымі гарыць,
Пажар асьветліў заравам прастор...
Дрыжы, «культурнік» белы мандарын,
Кітай Саветы ў бойках, муках творыц!...

Няхай каналі продкі ў цемры векавой,
Банкіраў Захаду былі рабамі,—
Патомак ўзняўся, ўдарыў гулка ў звон;—
Перамагчы, ці зьлегчы галавамі...

Ахвяр ў мінулым—не пералічыць.
Народ быў гной для захаду плянтацый,
Народ гібеў у поцемках начы
Пад ботам «белых» і «культурных» нацый!...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Няхай зруйнован Нанкін і Ваньсян
Драпежніцкі ангельскімі рукамі,—
Не задушыць рабочых, ні сялян,
Не панаваць над краем, Буддам, Брамам!

Усход дыміцца, ў полымі гарыць.
Паўстаў Кітай вялікі і магутны...
Кітай «культурай» досыць ўжо карміць,
Няхай пажар ацепліць край пакутны!

# Стой пралетары пільней на пасту!

Словы магутныя ў бурах трызвоняць,
Сказы дзівосныя ў зорах цьвітуць...
Лязгае вораг сталёваю зброяй,—
Стой пралетары пільней на пасту.
Словы магутныя ў бурах трызвоняць.

Пільна, цярпліва кладзём мы цагліны.
Камень да каменя—новы завод.
Круціць плячамі ўжо Волхаў турбіны,
Плеч ня згінаў каб мучліва народ.
Пільна, цярпліва кладзём мы цагліны...

Леніна думкі сусьвет азарылі,
Ленін у сэрцах бядноты жыве...
Справу яго сьцерагуць эскадрыльлі
Птушак сталёвых. Мацнее Савет...
Леніна думкі сусьвет азарылі...

Сілы варожыя бесяцца з гора.
Сьвет спарахнелы камуну ўзарваць
Квапіцца ў злосьці бяссільнай і чорнай,
Дні адышоўшыя рад пераняць...
Сілы варожыя бесяцца з гора...

Прыдзе часіна—ня заўтра, дык посьле.
Горы і долы заныюць ад ран.
Будуць канавы для тысяч пагостам...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ціха прасторы асьветліць зара...
Прыдзе часіна—ня заўтра, дык посьле...

Сілы дзьве сойдуцца ў бойцы рашучай:
Праўда бядноты з Няпраўдай трутнёў...
Працаю шчыраю, працай кіпучай
Створым мы посьпех для новых баёў...
Сілы дзьве сойдуцца ў бойцы рашучай.

Леніна словы, як громы, гутораць,
Сказы дзівосныя ў зорах цьвітуць...
Думы і песьні ў бурах трызвоняць,—
Стой пралетары пільней на пасту!..
Леніна словы, як громы, гутораць!..



## Эй, брат!..

**(Барацьбітом Зах. Беларусі).**

Эй, брат, устань, ня сьпі,
Яшчэ ў агні
Наш край гарыць,
Шугае дым і пыл...
Квітнеюць дні
Крывёй зары!

Ледзь ноч спадзе у дол,
Жахлівым сном
Замруць палі,—
Выходзяць грамадой.
Гуляць з агнём
Сыны Вяльлі...

Усьміхаецца ім Усход,
Заве з сабой...
Вітае рань...
Уздымаецца паход...
Гарыць як бой
Сярмяжных раць!..

Дык, брат, устань, ня сьпі,
Яшчэ ў агні
Наш край гарыць.
Шугае дым і пыл...
Квітнеюць дні
Крывёй зары!

М. Валынцы, 27/I-27 г.

# Зьвіні струна...

Зьвіні, зьвіні напятая струна,
Агнёвы смык з струнамі зьліся,
Бо вольных дум нікому ня стрымаць...
Зьвіні, струна, крыніцай біся!...

Магільных дум мінуліся часы.
Дзе рос палын—цвітуць шыпшыны.
Дзе ўранку таяў звон касы,
Там будзіць сенажаць машына...

Зьвіні, струна, гучней, журбу спаві
Страшлівых сноў ня трэба болей.
Краіне роднай ня дрыжэць ў крыві,
Й ня млець перад апошнім боем!

Зьвіні, струна, і пяруном удар!
Расьпяты брат на Захадзе канае...
Мазольная рука—законны уладар...
Шалёнай знаці ня мінуць канавы.

Зьвіні, зьвіні, напятая струна,
Яшчэ мамэнт—і зарава зазьзяе...
У агні адновяцца і Нёман і Дзьвіна
і Беларусь ня здолеюць запляміць!...

# Вясна ідзе!..

Што дзень—ясьнеюць больш нямыя далі,
Сьмяецца сонца палчай, ласкавей,
Каб на грудзёх ацепленых праталін
Званіла жыта маем санлівей.

Што дзень губляецца ўсё больш праменьняў,
Цьмянее—нікне сівая зіма...
Ня стаць вясьне прад сьцюжай на калені,
Зялёнай шапкі моўчкі не здымаць!..

Вясна ідзе... Бары званчэй цымбаляць,
Сінее кветкай тонкі небасхіл...
Калі рака пад лёдам карнаваліць,—
Убяруцца хутка ў зелень берагі!

Што дзень—ясьнеюць больш нямыя далі,
Сьмяецца сонца палчай, ласкавей,
Каб на грудзёх ацепленых праталін
Званіла жыта маем санлівей.

25II-27 г.

# Ой, ты, гаю...

Ой, ты, гаю шоўказвонны,
Над табой агніць зара;
Вецер хмары плытагоніць,
Зоры ясныя гарацьǃ..

Помніш ты—часы бывалі—
Песьні пеў сьвінцовы дождж,
Крывёй поле палівалі,
Усьцілалі трупам дол.

Сіні дым завешваў далі,
Кулі ствол клявалі твой...
Шлях да волі тады калі
Людзі грознай грамадой.

Людзі шлях да волі клалі,
Сьвет стары з агнём, да-тла
Руйнавалі ў страшным бале,
Край мяла вайны мятла...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Зноў ажыў ты, гаю, ціхі,
Зьнік і сьлед ад чорных ран...
Але... блудзіць яшчэ ліха,
Крывёй пырскае зара!..

# Чуцён трывожны шум.

Чуцён трывожны шум,—
не здрыгануць калені,
бо ў сэрцы—Ленін
і падаць ніц
я не магу.

Граніт і сталь
ня будуць нас цьвярдзей...
Вышэйшым—воля у людзей
яна ўсяго, што нават без граніц
заслужаны коваль.

Чуцён трывожны шум,—
не здрыгануць калені,
бо ў сэрцы—
Ленін
і мне ня ўпасьці ніц.

# Партызаншчына.

Я ня быў,
я ня знаю партызаншчыны;
малады дужа быў гадамі
калі карабінамі ляскалі
у кустох,
як дружылі з кустамі.

Гэта я памятаю мала.
Ну, вядома:
дзіцё што помніць?
Але помню,
як пушча гукала,
да сабе заклікала загоны.

Эх, ты, лес,
эх, кудравы падпасак,
шапацеў ты лістамі,
сьпяваў,
як насіў я бутэлькі з квасам.
як насіў—
хлеба кавалак.

Тым насіў,
што буянілі кроўю,
у кустох карабінамі ляскалі.
Гэта я,
як сягоньня помню;—
маладосьць вельмі ў памяць далася мне.

Ня было вытаптанае сьцежкі,
але—
ня блудзіў ніколі.
Стукацела хоць моцна сэрца,
бо—малы,
бо ня мог самаволіць.

Эх, лясы,
аднаго шкадую,
што рука ў крыві не пацела...
Дык цяпер...
не пашкадую кулі.
Дык цяпер,
бязумоўна
пацэлю!

Не адзін,
а нас вырасла многа
гартаваных у Ленінскай кузьні...

. . . . . . . . . . . . . . . .

І растопчам апошні рогат
і утопім
у літарах
брудных.

# Чадра.

И розы вырвались из плена,
И нерушимая чадра,—
Наследье дикой старины—
Упала с молодого тела.

Г. Санников.

Яна прайшла як цень, як здань,
Як лані хітрая украдка,
А лёганькай спадніцы складкі
Прыгожы абхапілі стан.

Хадою стройнай, грацыёзнай
Хавала ў рухах тасьмы мар.
А ў сэрцы біў дзявочы жар
Нямы як сон, як мора грозны.

Сышла паволі к ручайку,
З пляча зьняла збанок гліняны
І ў постаці блазнотна-п'янай
На бераг села—на пяску.

Рукою міла загарэўшай
Чадру адкінула назад.
І чуць набегшая сьляза
Абмыла воч агоньчык першы.

А сонца сьмехам залатым
Купала гібкую даліну.
І ў даліні ружова-сіняй
Манілі зеленьню кусты.

Пад шэлест тонкіх адчуваньняў
І ручайка нявінны сьмех
Схіліла голаў у паўсьне
Пяшчот забыўшыся каханьнем.

Пасьля прачнулася ад дум.
А вочы, вочы так гарэлі...
Чарней тых воч няма ў газэлі,
І ў іх адбіўся ціхі сум.

А рыскі твару маладыя
Ігралі шоўкам хараства.
О, хто глядзеў у гэты твар
Калі чадру яна адкіне.

Хто мог зірнуць на дно душы
Праз воч пякучую атруту—
Казачкі сэрца мяту-руту
У сваіх абнімках задушыць.

Хто мог на грудзі крамяныя
Свайго каханьня выліць жар.
Хто цалаваў бялявы твар,
Калі чадру яна адніме.

Той ведае і знае той
Дзіцё паўднёвае вынегі—
Пачуцьцяў тонкіх перабегі
І сэрца палкага агонь.

І вось яна, яна устала
Прайшла і села на скалу.
Сарваўшы чорную чадру
Так ціха песьню засьпявала:

Ліжуцца хвалі каменьнем,
Пырскі красае ручэй.
У золаце шорсткіх праменьняў
Сэрцу кахаць гарачэй.

Сэрца гарыць і сьмяецца
Мыюцца ногі вадой.
Шолахам стомленым вецер
Лёгка іграе чадрой.

У шапцы лахматай з кінжалам
На пенай пакрытым кані
Выядзь ка мне мой удалы
У чорныя вочы зірні.

Чыстай, крыштальнай вадою
Коніка я напаю
І загарэўшай рукою
Шыю тваю абніму.

Буду сьпяваць табе песьню,
Вылію душу да дна.
Сэрца гарачым прадвесьнем
Я натачу твой кінжал.

Вернай, заўзятай рукою
Сьцісьнеш нэрвова эфест;
З поўнай пагардай закону
Злосна чадру пасячэш.

Горда зірнуўшы у вочы
Скажаш мне волю вякоў...
Постаць утомы захоча;
Голаў схілю на плячо.

Ты-ж пацалункам падорыш,
Смагаю губы сальлеш.
... У небе запаляцца зоры,
Каб сэрцу кахаць гарачэй...

І скончыла. У стоме слоў
Рука упала на калені.
Ручэй злаваўся між каменьняў
Лізаў залочаны пясок.

Сышла, зачэрпнула ваду,—
Нясла у грацы павагу.
І чорных воч схавала смагу
На твар накінуўшы чадру.

---

# Дзяўчыне ў дні згубіўшай пуцявіну.

Ну, што табе сказаць,
ну, што ты мяне просіш?—
Хіба сказаць,
што я цябе кахаў,
што я любіў
вачэй чарнявых просінь,
як звон вясны
ля кучаравых хат.

Пранеслася...
Сама ты добра знаеш,
што у жыцьці нічому не стаяць...

Я-ж знаю сам,
што вочы сэрца паляць
і сок ружовы
падае к нагам.

Я прамяняў усё:
і сэрца
й вочы
на крык жыцьця,
на пыркі новых дзён.
І сьмешна мне,
калі ты сёньня хочаш
старых званіц
лавіць набракшы звон.

У жыцьці я бачыў
многа воч чарнявых,
ў жыцьці сьмяяліся
мне многа палкіх воч.
Але дарог
апроч адной ня знаю,
апроч адной
ня ведаю дарог.

І я пайду.
Хочаш?—
і ты са мною.
Я буду рад,
што ты ў жыцьці—юнак.
І пакахаю йзноў
нязьмятаю душою
і пакахаю йзноў
жыцьцёва, моцна так.

Эх,
паглядзі—
ну, як не захапіцца:
такі размах
прыгожасьці жыцьця.
А ты маўчыш,
а ты упала ніцам
згубіўшы даль
і ў даль згубіўшы шлях...

. . . . . . . . . . . . . . .

Ну, што-ж сказаць,
чаго ты мяне просіш—
я не хачу магільнага любіць.
Тваіх вачэй
затухла ў Сёньня просінь,
а што прайшло
таму ня крыкнеш:
—біс!..

## Вочы смуродзіны.

У саду ля майго вакна
Распушылі чупрыны кусты.
І смуродзін аброшаны пах
У душы маёй хмелем застыў.

Я падгледзеў аднойчы тайком
Тых смуродзін чарнявую муць.
Нават зоры халодным кіўком
Так душы не маглі ўскалыхнуць.

Я пазнаў у іх воч тваіх дно
І расьніц задумёных смуглявасьць;—
О, каб гэтыя вочы я мог
Свайго сэрца узяць аправай.

...У саду ля майго вакна
Часта ноч загінае заломы;
І тады ў мяне многа агня,
І тады ў мае ласках ладоні...

Мне здаецца, што гэтая ноч
Твае чорныя бровы украла,
Валасы ў тонкі шоўк павязала,
Каб таміцца агнём тваіх воч.

Полацак, 1927 г.

# Таіса.

Я пачынаю. Хоць гэта ўсё скончана ўжо, але, Таіса, я хачу табе напомніць аб ім, заставіць забіцца тваё сэрца. Напомніць аб тых пісагох, якія прасякаюць маё цела і твар, а калі ты ня ведаеш пра іх—расказаць.

1.

Помню: ты была ў пана. Часта я цябе бачыў там, калі ты рэзваю бегала па двару. Ныркала па садзе. Хавалася між бэзу і купаючыся водарам жыцьця напявала мэлёдычныя песьні. Гэтыя песьні мне былі праціўнымі, як была й ты. Мне толькі маладосьць твая падабалася: мілая, бястурботная.

Я часта хадзіў на работу да гэтага пана. Я ведаў яго: ён быў сярдзіты і наглы. Быў тлусты і вылашчаны.

Помню: мы касілі за садам канюшыну. Было такое слаўнае сонца. Але на сэрцы было брудна й шурпата. Здавалася: канюшыньнік, сваімі адцятымі карэньнямі коле ня ў пяты, а ў сэрца. Ад гэтай трывогі хацелася кінуць касу аб зямлю. Бегчы туды, дзе-б абагрэлі гарачым спачуваньнем смуглявыя вочы вёскі. Дзе-б сваімі каравымі рукамі яны ўзялі размыленае запалам сэрца і суцешылі яго, напаіўшы сокам надзеі, сокам безгранічнае ласкі, каб ізноў пачуў характво жыцьця, каб ізноў быў заліхвацкі размах пляча і сьвіст касы.

Нам прынеслі палуднаваць. Паселі ў кружок. Нас было—5.

Абданыя смагай мы лавілі дзеравянымі лыжкамі рэдкі крупнік. Гутарка рабіла нас вясёлымі й жыцьцёрадаснымі. Хацелася гаварыць і сьмяяца.

З зелені саду паказалася ты. Лёгкай птушынай хадою падходзіла да нас. У руках была кветка: белая пышная, як твая сукенка. Валасы віхрыліся на лёганькім ветры.

— Добрага дня, хлопцы!—сказала ты ў здаваленай рэзвасьці. Здавалася: гэта сонца гаварыла й сьмяялася. Ты была праціўная, але прыгожая і стройная.

Падышла і сарвала некалькі галовак канюшыны. Пасьля ўзяла касу і з дзіцячай блазнотай махнула па пракосе. Сьмяялася, калі валілася толькі тры калівы і казала:

— А ўсё такі й я ўмею. Во! бачыце?—і йзноў махала. Каса вырвалася з тваіх рук і была такая бяссільная, як вачэй патухшых атрута. Здавалася: была волатам не каса з сваім грозным бляскам лёза, а канюшына, якая сьмяялася перамогай хараства і распрасьцёртасьці.

— О, бо ты-ж умееш—сказала ты з нявіннай па крыўджанасьцю, калі мой размах запусьціў бліскучы сьвіст у карэньні.

Яшчэ раз пробавала, але нічога ня выходзіла. Ты крыўдзілася, а я сьмяяўся.

— Чаму ты такі дужы?—сказала і каса выпала з рук. Пасьля падышла, прытуліўшыся блізка складкамі белай сукенкі, прышпіліла белую кветку і зьнікла. Чулася твая песьня ў садзе. Яна перапляталася з тонкімі адчуваньнямі бяссільных імкненьняў жыцьця. Была міла-пякучай і шорстка-ласкавай. Чапала нячутныя акорды сэрца і ціха, так ціха замірала, як вясна.

А кветка маніла пахам русых віхрыстых валасоў...

2.

Той дзень быў надзвычайна прыгожы. Сонца купала праменьнямі істоту. Лізала валасы абмыленыя потам. Цалавала твар і лашчылася дакучлівым сьмехам.

А лёганькі, сарамліва-пяшчотны ветрык лазіў за пазухай і здавалася: ён там шукаў прытулку, ад нагла-жоўтага сонечнага сьмеху. Толькі дарэмна—сонца з урачыстасьцю рагатала перамогай.

Недалёчка стаяў і марыў лясок. Кудрава-зялёны. Здавалася: клікаў да сябе крышачку адпачнуць і сказаць

нешта таемна-вялікае. А пасьля йзноў задумацца схаваўшы ў зялёных галінках смагу.

Сена перасохла, вельмі прыемна пахла і шапацела пад граблямі. Расьлі адна за другою копы. Расьлі буйнымі пярэбіркамі і фармаваліся.

У капялюшы з бліскучай палачкай паходжваў прыганяты. Ён часта заюгліваў з дзяўчатамі, але крычаў на другіх:

— Ну, ты, там, рабі, рабі!

І мы рабілі. Сарочкі былі мокрымі. Буйнымі каплямі сачыўся пот. Еўся салёнай горкасьцю ў вочы. Прыліпалі дробныя парушынкі да цела і рэзаліся.

Пасьля сонца пачало хавацца. Апускалася за лясок, а нам дарыла астатнія цені. Доўгія, зялёныя цені. І здавалася: яно ганарылася непадробным хараством захаду, уміраючым поглядам адпетага, чуючага бяссільнасьць і гонар праплыўшай пуцявіны.

Плакала сонца і сьмяялася.

Пасьля ціха стала.

Пасьля песьня пачулася і замірала ў прасторы, як замірае нязьдзейсьненая мара, як сон у сваім хвілёвым уяўленьні бяссільнай сапраўднасьці.

Я астаўся адзін. Мне хацелася думаць доўга і моўчкі. І я думаў. Кудры цалавала пахучае сена. Вечар лашчыўся і варажыў сваім распрасьцёртым крылом мае думкі.

Нешта шаснула сваёй падазронасьцю. Я падняў твар... Перада мною стаяла ты, Таіса. Я пазнаў цябе, толькі сукенка была ня белая, а цёмная.

-- А я хацела спужаць цябе, Пятрусь.

— На што-ж ты хацела.

— А так. Пазнала-б які ты пудкі.

Я замаўчаў. Нешта нязвычайна-таемнае і міла-шурпатае абхапіла мяне. А ты прысела блізка, блізка. Нават калені дакрануліся маіх.

— Што ты тут робіш?

— Нічога.

— А чаго астаўся?

— Ня ведаю. Так неяк: прысеў і застаўся.

— А я бачыла, што цябе між хлопцаў няма і прыбегла.

— Добра.

Гэта я сказаў мэханічна. Я ня ведаў, што сказаць. Так неяк вышла.

— Кажаш добра?—і галава пахілілася к плячу. Ізноў чуўся пах валасоў.

— Пятрусь.

— Ну.

— Я табе хачу нешта сказаць.

— Што-ж ты скажаш.

— Толькі ты будзь крыху вятлівейшым.

— Кажы.

— Ведаеш... да мяне...—і замялася.

— Што?

— Да мяне пачаў чапляцца гэты... паручнік... Гжэцкі. Але... я не хачу. Ен нейкі наглы.

— Дык чаго-ж ты хочаш?

Гэта я сказаў так сабе, бо я ведаў чаго ты хацела.

— Я хачу, каб ты мяне кахаў. Каб ты мяне прытуліў да сябе, да свайго цёплага сэрца, бо я-ж—я-ж кахаю цябе, Пятрусёк...

І ты яшчэ больш прыціснулася да мяне. Яшчэ больш капа насунула на нас свае бровы. Яшчэ больш стала ціха і я пачуў, як канвульсыўна уздрыгваючы ты шчыра плакала. Ня ведаю, можа й маё сэрца чакала гэтага, але помню, як у смазе зьліліся цэмэнтам губы, а ты прыліпла як п'яўка да грудзей. Я абняў пругкае, маладое цела...

3.

О, ты кахала мяне. Табе было міла бачыць мяне маладога, здаровага. Было прыемна туліцца да маіх грудзей, дзе чутно было, праз белую вышываную кашулю, як стукае сэрца. Ты любіла слухаць гэты стук і казаць.

— Гэта яно для мяне так горача б'ецца. Праўда, Пятрусь?

Я нічога не адказваў. Мне таксама была прыемнай твая ласка і гэты ап'янаючы пах валасоў. Я любіў гэтыя складкі белай сукенкі, якія зграбна абхопвалі тваё цела

і выдавалі яго хараство. Я любіў гэтае ўвасабленьне маладосьці і можа затым мне часта рабілася нудна, калі цябе доўга ня бачыў. Ня ведаю чаму—можа хіба сэрца хацела гэтага. Можа хіба й я кахаў...

А час ляцеў.

Помніцца гэтая белая, праклятая сукенка. Асабліва вечарам яна была такая тонкая.

Цёмная ноч была. Было ціха, а здавалася, што тысяча нябачных струн ігралі нам сымфонію жыцьця.

Возера было. Плылі ў чоўне. Вада ціха, пяшчотна цалавала вёслы. Пасьля вёслы саўсім апусьціліся. Саўсім маўчала ноч.

А ты шаптала нешта. Акутвала кучаравымі валасамі. П'яніла іх водарам.

— Пятрусь.

— Што Таіса?

— Ты мяне любіш?

Я маўчаў. Сэрца гаманіла за мяне.

— А ведаеш, сёньня да мяне прыходзіў Гжэцкі. Цукеркі прыносіў. Сьмяяўся. Доўга гаварыў. А ён усё такі добры хлопец.

— Ну, а ты як?

— Я... нічога.

— І цукеркі ела?

— Не. Так сабе балавалася.

Нешта нядобрае шастала ў грудзях. Здавалася: гэты Гжэцкі гадзюкаю засмактаў у нутры маім кроў. Хацелася разарваць яго на кавалкі, што запляміў цябе сваёю прысутнасьцю.

— Ну, чаго-ж ты змоўк, Пятрусь?

— Нічога. Мне Гжэцкі не падабаецца.

— А чаму?

— Так сабе. Праціўны ён. Гадзіна. Перадушыць-бы іх... шчанюкоў гэтых.

— Гэта-ж цяжка, Пятрусь.

— Ня цяжка. Пачакай. Пакажам мы ім сваю грубасьць. Адплацім. Разьлічымся.

І акрылены, натхнёны надзеямі, я табе казаў многа, доўга. Адчыняў табе не ўпяршыню гэты вялікі размах

дзеяньня, адчыняў пляны, думаючы, што й ты гарыш маёю кроўю, ловіш стук майго сэрца.

Ты ўжо нічога не казала. Маўчала. Галава апускалася ў цяжары задуменьня і ты ўздыхнула. Нешта падаладзронае я ўлавіў у гэтым уздыху. Зірнуў у вочы, а яны былі засмучонымі.

— Чаго ты, Таіса?

— Крыві многа будзе, Пятрусь. Не рабі гэтак.

У словах тваіх я пачуў здраду папярэдніх думак, папярэдняй захапленасьці, і мне стала брыдка за цябе, за твае сьлёзы.

О, якая нікчэмная ты зрабілася ў маіх вачох, Таіса. І я адштурхнуў цябе.

Ты плакала, а мне было сьмешна і горка...

4.

Была нядзеля. Сонца таксама было гарачае і жоўтае. Яшчэ нават больш прыгожай здавалася акаляючая мастацкасьць жаўтавата-зялёных убораў. Яшчэ большая была задуменасьць карункаў бярэзніку. Яны паапускалі свае доўгія бяссільныя галінкі нібы ад безнадзейнага каханьня і здавалася: марылі аб нечым.

Ня ведаю чаго, але я быў у лесе. Мне прыемна было там быць.

Доўга хадзіў. Любіў, калі лес мне гаманіў многае і патаемнае. Калі лашчыў пяшчотаю думкі.

Хацеў выйсьці на луг. Выходзіў з лесу. На беразе пачуўся нечы голас і сьмех. Гэта была ты з паручнікам.

О, як хацелася мне зараз-жа паказацца вам на вочы. Едка пагаманіць з паручнікам і паглядзець, што рабіла-б і якою была-б ты...

— Таіса.

— А што?

Ты рвала кветкі. Пасьля селі.

— Таіса.

— Я ўжо чула. А што?

— Я люблю вясну.

— Шкода, што ўжо восень.

— І люблю Таісу.

— Ня надта прыемна.

Засьмяялася. Гуляла кветкамі.

— Чаму і для каго ня прыемна?

— Для цябе. І яшчэ для каго небудзь—дадала.

— Хіба для гэтага хама?

— Можа.

— А для цябе не?

— Ня ведаю.

— А ўсё-ж такі, ты яго, здаецца, кахала?

— Каго?

— Ды гэтага бальшавіка паскуднага.

— Не. Так сабе. Ня было чаго рабіць.

Ня вытрываў. Рвануўся.

— Каха-ала!...

Усхапіліся абе. Ты была белая. Спуджаная. Але горда-пакрыўджаная і нагла-стамлёная. Крышачку адышла ад яго. Вочы пагубляла ў траву. Ашаломленая была. Разьбітая.

— Чаго ты хочаш?!—падступаючыся крыкнуў ён.

— Задушыць цябе як гадзіну! Во гэтымі каравымі рукамі!

Выхапіў наган. Кінуўся да мяне. Ты кінулася на перасьцярогу з крыкам:

— Ня трэба!

Але горда сказала:

— Прэч!—і пашла з ім...

5.

Прыехалі на двор. Многа. Узброеныя. Сярдзітыя. Наглыя.

— Старая! Яйкі нясі!

— Масла!

— Млека!

— Сыра!

Маці плакала. Нічога ня было. Прасілася. Маліла. Цалавала рукі зялёным гадзінам, калі яе плечы цалавала нагайка.

— Панкі. Няма нічога. Даруйце...

— Мусі быць, пся крэў!

Ізноў сьвістаў бізун.

Самі пашлі шукаць. Варочалі ўсё. Ламалі. Нішчылі.

Пашлі ў хлеў. Цялё там было. Выгналі на двор. Забраць хацелі. Прымушалі мяне вясьці.

— Не павяду і ня дам!

— Што?

— Вы чулі.

Коньмі наяжджалі. Скаліліся.

Мяне забралі ў маёнтак. Цялё застрэлілі...

Сабралася многа. На стайню завялі. Зьвязалі. Білі.

Сарочка была мокрая ад крыві. Паручнік камандаваў. У яго вочы вырваліся з арбіт ад злосьці. Былі чырвоныя. Відаць была радасьць помсты за абразу. Кіпучая, злосная радосьць.

Маўчаў. Толькі цела сьцепалася. Скрыгаталі зубы ад злосьці. Кіпела кроў ад бяссільля.

Чаго ты прышла тады? Чаго як здань зьявілася? Хіба каб мне больш было балюча ад твае урачыстасьці?

Ты крышку спужалася. Спазнала. Угледзела тую кроў, якую абзывала сваёй, калі стукала пад вышыванай кашуляй сэрца. Ты можа гэтае крыві спужалася? Можа пашкадавала, што яна льлецца? А можа радавалася, што сэрца асталося-б бяз крыві і ты тагды сьмела магла-б сказаць, што ў ім няма таго, што абзывала сваім?

Вочы стрэліся. Ты іх апусьціла і адвярнулася. Можа ты што й казала, але за гнеўнымі авацыямі зьвяроў нельга было пачуць. Гэта была іх урачыстасьць.

З гордасьцю паручнік падышоў да цябе. Ты пашла. Ціха і панура. Постаць твая была стомленая і гордапакрыўджаная...

6.

Гарэў Усход. Заграва далёка кідала праблескі—мілыя, бурна-агняныя праменьні. Гэтыя праменьні сьляпілі вочы катам. Нізалі проймаю расплаты за праўду, за ўвасабленьне Волі сымбалямі вечнасьці.

Мы былі ў лесе. Партызанамі былі. Слаўнымі барацьбітамі Волі.

О, Таіса! Ты ня ведаеш колькі праліта нашае крыві. Колькі мук і ўтомы зьнесена намі.

Мы хаваліся за кожным кустом, пнём, купінаю. Кожны загон, раўчук, прылесак ведае нас. Ведае...

Яны хавалі нас як дзяцей сваіх. Лісьцямі прыкрывалі. Ад куль засланялі сваімі грудзьмі.

А ты была далёкаю забытаю...

Прабіраўся ў вёску. Маленькія хмаркі хавалі мяне ад вачэй месяца. Не давалі яму сачыць за мной. Цэлам сваім засланялі.

Але за мною сачылі іншыя. Ім крыві маёй хацелася...

7.

У пастарунак прывялі зьбітага. Змучанага. Зьвязанага кінулі там. Замкнулі.

Увечары разбудзілі ногцамі. Узялі на дапрос. Быў паручнік. І сам пан быў. Тлусты. Вылашчаны.

— Бунтаваць думаеш?!

— Паўстаньне рабіць?!

— Дзе больш вашы хлопцы?!

— Там, дзе ім патрэбна.

— Бальшавік!

— Так, бальшавік, а не наглая абжыра і чорная гадзіна

— Маўчаць!

Нагайкамі паласавалі шкуру. Шомпалы чаўкалі па мясе.

— Дзе больш паўстанцы, гавары?!

Маўчаў,

— Колькі іх у лесе?!

— Хто атаман?!

Пагардны сьмех быў адказам.

— Кажы, бо будуць плаціць за іх усе вашы вёскі, пагараць і самі паздыхаюць!

— Ня ўсьпееце зрабіць гэтага.

Вочы вылазілі з арбіт ад злосьці.

Завялі ў нейкі склеп. Прывязалі да ўслону і... О, Таіса!—чаму ня бачыла ты тут, як ізноў капала ручаямі мая кроў на брудную падлогу? Чаму не захацела бачыць тут таго разадранага сэрца, якое любіла? Якое звала сваім і лічыла ўдары? Чаму не прышла сама узьнізаць яго на шомпал і рагатаць ад здаволёнасьці?..

Няпрытомнага скінулі на падлогу. Вадою аблілі. Я

смактаў мокрымі ад крыві губамі з кроўю-ж перамешаную гэтую ваду.

Не балела нічога. Было толькі душна й пякуча. Здавалася: мяне аблілі варам. А я быў глыбока-ўтомлены і хацеў адпачнуць.

Пасьля я нічога ня чуў. І ня бачыў. Помню толькі: нешта жорстка-пякучае кранулася майго твару. Пасьля штось мокрае, густое і цёплае лілося па ім і капала на зямлю...

8.

... Так міла і добра было мне. Мора. Безгранічнае мора. Такая ласкавая, цёплая вада. Такая пахучая, белая пена. Такія пяшчотныя і слаўныя хвалі. І яны цалуюць мяне. Маняць сваім прасторам.

Я плыву. Калышуся на хвалях зачараваны іх хараством. Далёка плыву. Берагоў не відаць. Хвалі нясуць мяне. Клічуць паслухаць гармонію мора чыстую, непадробную, далёкую ад турбот зямнога шуму.

Сонца сьмяецца. Цалуе праменьнямі. Мне добра. Лёгка. Міла.

А во русалка перабірае мае валасы. Шэпча нешта. Гладзіць па твары. Нагнулася. Яе валасы чапаюць мае шчокі. Акутваюць шыю, рукі. І яна шэпча;

— Пятрусь. Пятрусёк...

Раптам—боль.

... Гэта была ты, Таіса. Не валасамі—вадой ты мыла мне твар. Не рукамі — тонкай крамнінай акутвала мне галаву.

Акутала.

Ты падняла яе сабе на калені і шаптала.

— Пятрусь...

Стонг быў адказам.

— Устань.

Я хацеў адштурхнуць цябе. Задушыць хацеў. Але ня мог.

— Устань... Хадзем...

— Чаго хочаш ты?—глуха мог прагаварыць.

— Я хачу забраць цябе адсюль. Вызваліць хачу. Хадзем... Чуеш... Устань...

Ізноў крапіла вадою. Піць давала.

— Хадзем. І я з табою пайду...

— Гадзіна...

Ты плакала. Сьлёзы капалі мне на твар.

Пасадзіла мяне. Цёмна было. Ноч была. Чорная, гадкая ноч.

— Я хачу цябе выратаваць. Толькі хутчэй, хутчэй. Пятрусь...

— Н-не! Не магу! Ідзі... здрадніца...

Галава падала на грудзі. Цяжкая была. Забінтованая...

Прачнуўся ізноў. Цябе ня было. Было цёмна і гадка. Было цяжка і балюча.

... Рука ў крыві абмацала браўнінг...

О, Таіса...

* * *

Скончыў.

Гэта ўсе ўжо забыта. Але я захацеў напомніць табе аб ім. Напомніць аб сабе і аб тым, калі табе было 17 год. Заставіць забіцца твае сэрца, заплакаць і прасіць падараваньня ў нашых дзён.

Я можа не напісаў-бы, але гэты рубчасты шрам на твары і твой маленькі браўнінг застаўляюць мяне. Яны заўсёды напамінаюць мне аб табе, Таіса.

Ты прачытаеш, бо ты любіла мяне, а можа яшчэ хацела палюбіць...

Я скончыў...



# Пастух.

На плячох абадраная сьвітка,
а на сэрцы вясна залатая.
Ідзе ў поле—вясёла сьвішча,
яго сьвіст дзесь далёка тае.

Ідзе ў поле—радасна неяк,
абнімае прастор у думах.
Валасы вецер ласкай абвее
і зьнікае далёка з шумам.

І зьнікае. А ў сэрцы знова
узьнімаюцца хвалі бурлівыя.
Толькі думы бунтараць па новаму,
толькі ў думах—жыцьця пераліві.

* * *

Узьнімаюцца дні над зямлёю
і хаваюцца ў шэрым тумане
і заўсёды, заўсёды далёка
мы вітаем то вечар, то раньне.

Каля гаю ў туманнай даліне
ходзіць хлопец за стадам вясёлы;
яго песьні—вятроў пераліві,
разьліваюцца сьмела наўкола.

Усёроўна—ці восень, ці лета—
за каровамі вечна ў полі...
А пад пахай з чытальні газэты
і душой—малады камсамолец.

# Два.

1.

Буйны колас сярод жыта
да зямелькі прыхіліцца
бо пайду туды сьцяжынкай,
дзе зарніца
над крыніцай
ветлай радасьцю іскрыцца.

Там у зелені магіла,—
дзіва-кветкі пунсавеюць.
І далёка гукі гінуць,
калі ў вечар
салавейка
сваёй песьняй вее. вее...

2.

Дні грымелі агнявыя,
чырванела даль зарою.
І у полі віхры вылі,
за гарою
ля дарогі
стрэлы чуліся парою.

Раз жандары двух браточкаў
(не хацелі пасьці ніцма)
прывялі ліпнёвай ночкай,—
дзе зарніца
над крыніцай
ветлай радасьцю іскрыцца.

Прывялі. І так трывожна
стрэлы змоўклі у прасторы.
Толькі ночанькай прыгожай
сумавалі зоры,
з гора
месяц плакаў па-над борам.

3.

І прайшлі, прабеглі годы
сонцавейнаю сьцяжынкай.
Але сэрцу дарагое
не забыць
ніколі ў жыцьці.

Над зялёнаю магілай
салаўіны сьпеў бруіцца,
дзе зарніца
над крыніцай
ветлай радасьцю іскрыцца.

В. Забелы, 1927 г.

---

# Песьня.

Выйдзі любая, чорнабровая
ды за рэчаньку яснай раніцай.
Бачыш—
недзе там за дуброваю
далі полымем разгараюцца.

Разгараюцца і завуць к сабе,
і завуць к сабе ласкай нежнаю.
Таму ў радасьці ня спыніць разьбег,
ня спыніць разьбег мне мяцежнаму.

Разьвітаемся.
Я пайду туды,
дзе гудкі гудуць пераліўныя.
Можа песьняю сьветлых мар уздым
праімжыцца дзесь над далінаю.

Грозны горад стаў за крутой гарой
за крутой гарой, за палянамі.
Да яго вядуць шмат шляхоў-дарог
шмат шляхоў-дарог атуманеных.

І прайду шляхі і прайду туман,
усьміхнецца дзень сонца золатам.
Ці-ж то болей слоў у грудзёх няма,
калі стукаюць сэрца молаты.

Вось затым цяпер і ляціць з душы:
«выйдзі любая, чорнабровая.
Бачыш—
недзе там за дуброваю
прыгажэй што раз чырванее шыр».

Пруцца ветры ў даль палахлівыя,
гіне дзед-туман нібы белы дым.
Разьвітаемся—
я пайду туды,
дзе гудкі гудуць пераліўныя.



# Т а б е.

Сьцелецца кволы туман,
хвалямі йграе рака...
Песень распырскаем шмат
вышаўшы рань сустракаць.
Чуеш?—
ў бяздоньні далін
шэпчацца з гаем вясна.
Хочацца словы разьліць,
хочацца шчасьце спазнаць...
У полі дрымотная ціш,—
золак на ўсходзе гарыць...
Трэба памалу ісьці,—
не адзьвінець без пары.
Там,—
сінявейная высь,
там—
залатыя агні,
ў золаце зоры ўзьвілісь,
дзіўнасьцю песьня зьвініць.
Хай васількова блакіт
болей ня вее журбой,
высяем мы ля ракі
ў словах жыцьцёвую боль...
Раніцай радасьць імгліць,
ветрык зьлятае да нас...
Чуеш?—
ў бяздоньні далін
шэпчацца з гаем вясна.

* * *

Што адышло—
Ня вернеш зноў,
Ня вернеш
У жыцьці прыгожым...
Мо' толькі ўспомніць
У сэрцы кожны
Калі зашэпча лес трывожна
Аб справах,
Што былі даўно.

Зашэпча лес
У ціхім раньні,
Як і учора ён шаптаў,
Калі мужык—
Ліхі паўстанец
У пана цэліў
З-за куста...

Тады прастор
Палаў агнямі,
Бурліла
Вольнасьці рака
І песьні ймчаліся палямі
Іх гул далёка
Замаўкаў...

Прабеглі дні—
Мяцежны роскат
Замоўк у водбlісках зары.
І сёньня
Дарагая вёска
Вітае дзён агністых росквіт
І ціхай радасьцю
Гарыць.

1926 г.

---

* * *

Не—восень на мяне ня веяла журбой
І не хацелася стрымаць імпэт жыцьця...
Я помню сэрца часты перабой
І шолах ласкавы прыбрэжнага трысьця...
Не—восень на мяне ня веяла журбой...

Гарэў на захадзе пунсовы небасхіл
І адлятаалі ў край далёкі журавы..
Няясным водгаласкам ціхае тугі
Вячэрні змрок мне радасьць апавіў...
А ў край далёкі плылі журавы...

Так і гады... Ідуць, плывуць гады.
У маладосьці з імі лёгка заблудзіць.
П'яней за опіум дурніць каханьня дым,
Так люба захапляцца маладым,
І ў чадзе багнавым так лёгка заблудзіць...

Гады ня ждуць, мяняюцца гады,
Зноў ўецца нада мной жывых імкненьняў рой...
Ружовыя шляхі вясёлкамі ляглі
І неба край ярчэй, чым веснавыя дні...
Не—восень на мяне ня веяла журбой.

г. Полацак, 1926 г.

# Настурцыі.

I.

У лахмоцьцях лістоў вецер туліцца,
Плача вуліца гулам калёс.
А на вогнішчы сочных настурцый
Паразьлёгся брадзяга мароз.

І ня шкода. Няхай упіваецца
Недацьвёўшай апошняй красой.
Лепш загінуць пунсоваю раніцай,
Чым па кроплі губляць жыцьцё.

Я ня знаю чаго плача вуліца,
Што так вецер мінорам зьвініць.

...Было лета. Цьвілі настурцыі,
Ды завялі ў імглістую стынь.

І мароз галаву сівалосую
На гарачых пялёстках пагрэў.

Калі жыць і ня бачыць прыгожага,
Лепш прыгожа й раптоўна згарэць.

II.

А сягоньня ізноў
Чэрвень чары разьліў
І настурцый кусты загарэліся.
Мне здавалася сном
Гэта дзіўная быль
Новым дням захацелася верыць мне.

На пялёсткі ў крыві
Чэрвень чары разьліў
Каб ізноў запылаць, зарумяніцца.
Каб даць поўную цьвець
І прыгожа згарэць
У вабнімках пунсовае раніцы.

---

* * *

Зялёны сьвет
    дарыла сонца бору.
Зялёны сьвет...
    А лісьцям гоман слоў.
Сказала я—
    што ў сэрцы накіп гора,
што рвецца дум разблытаных вязьмо.
Сказала так...
    а песьня звонам сталі,
пяшчотных струн кранула перабор.
І дзесьці сум згубіўся і растаяў,
як тае лёд пад промянем вясной.

Полацак, 1927 г.

# Спатканьне.

Мне было тады: 10 год.

Чуць узыходзіла сонца—маці будзіла мяне, клала ў торбачку хлеба, скварку, я вешаў яе на плечы і гнаў у лес каровы. Раса пераліваласся срэбрам на румяных праменьнях паднятага над лесам сонца. На ёй лажыліся зялёнымі плямамі сьляды кароў і мае.

Зразу каровы не супыняліся—ішлі ўсё. Было крыху на іх злосна, тым больш, што было крыху холадна ў ногі і я крычаў:

— А куды, гнядая, каб цябе ваўкі зарэзалі!

Забягаў наперад і супыняў.

Крышку станавілася весялей і я ўжо гарлапаніў песьню:

Дзяўчыначка чорнаброва
паехала ў лес па дрова
зачапілася за пень,
прастаяла цэлы дзень.

Ня было чаго рабіць, я вымаў з торбы прывязаны вяровачкай «цыганок» і стругаў які небудзь калочак. Стружкі іскрамі разьляталіся на бакі і купаліся ў крыштальнай расе.

Зараз каровы ўходзілі ў лес. Путаліся між кудравых сосен і карункаў маладога парасьніку і беразьняку.

Падпускаўся пад палянкі. Каровы хацелі ўхапіць добры жмут ярыны, але я падбягаў і сьцябаў пугаю.

Станавілася крыху нудна. Тады я складаў рукі трубкаю каля губ і крычаў:

— Ого-о-о-о-о-у-ў!...

Пошчак разьбягаўся па лесе і неўзабаве прыносіў водклік.

Яшчэ разы колькі агукваў і падпускаўся з каровамі на голас.

Каровы пачыналі раўці. Водаль другія адзываліся. Яны ўсё зьбліжаліся.

Тады ка мне падбягала смуглявенькая, тоненькая, з патрэсканымі ножкамі, дзяўчынка і гарэзьліва сьмяючыся і йграючы вочкамі пыталася:

— Дзе-ж ты так доўга блытаўся?

Што мне адказваць? Я глядзеў на яе. Таксама сьмяўся і адказваў стала:

— Там, ля палянак круціў.

Нашы каровы сходзіліся, чухаліся і лізаліся.

Мы садзіліся на купінку ці на пянчук. Пачыналі памаленьку гаварыць, яе вочкі ігралі маленькімі задорнымі аганькамі.

— А ты ведаеш, учора Зыгнусяў Паўлік упусьціў свае каровы ў Варэцейкі, а яго там злавіў стражнік і садраў халат.

— А няхай ня будзе такі рызыкоўны—адказваю я йзноў стала—а то сваімі каровамі ўсе сенажаці паспасваў.

Сядзім. Яна глядзіць на мае ногі, а я на яе. Яны чорныя патрэсканыя. У мяне заверчаны вялікі палец, бо ўчора абабіў на карчук. Каравыя, зрэбныя порткі пападцёпкваліся і папускалі махры. Я іх нашу на падцяжках цераз плячо, якія зрабіла мама. Зашмальцованую маю грудзіну прыкрывае рабая парцяная падбітая сьвітка з доўгімі рукавамі. На галаве бацькава зімовая шапка налазіць на вочы.

Каровы схаваліся. Усталі. Ідзём. Яна дробненька крочыць і час-часам падбягае забягаючы наперад. Доўгія рукавы мамінай сьвіткі целіпаюцца як пугала ад вераб'ёў у каноплях.

— Давай будзем сьнедаць ужо—кажа яна.

— Яшчэ мо' рана.

— Ды не. Вунь паглядзі якая ўжо цянь—і яна мерала шагамі сваю цень.

Мы вешалі на грудзі свае торбачкі і елі. Пуга мая вісела на руцэ і цягнулася па траве.

* * *

Мы любілі пасьвіць удваіх. Кожную раніцу падпускаліся адзін к другому і шагалі па лесе цэлы дзень. Яна была вясёлая і звонкая. Часта мы кралі дома ў мацярок што небудзь смачнае і дзяліліся тут.

Было нудна, калі замест Гэлі гнала ў лес каровы Стэфа. Гэтая са мною нічога агульнага ня мела і адносілася фармальна. Тады нават каровы ня злучаліся, і я хадзіў і цэлы дзень ляскаў дратаванкай зьбіўшы к вечару вузьлікаў 12.

З Гэляю часта і сварыліся. Заводзіліся з-за якога небудзь глупства.

Помню: пасылаў аднойчы адвярнуць каровы ад прагаліны дзе шаўковілася сенажаць. Незахацела. Я зазлаваў. Яна зрабілася як зварок.

— Ідзі адвярні каровы з шкоды, кажу табе!—пеніўся я.

— Не пайду—панурыўшыся адказала яна.

Не выцярпеў, штурхануў у карак. Яна павалілася. Заплакала і праз сьлёзы:

— У-у, балабан ты. Каб табе рукі пасохлі. Хваробу пайду больш адварочваць. І пасьвіць з табой ня буду... Балабан!...

Я не выцярпеў: нагнуў і даў 2 разы ў плечы кулака...

Яна плакала, а мне пасьля было шкода і я прасіў каб нікому не казала.

Тады рукавы мамінай коптачкі не целіпаліся ў рэзвай бегатні, а бяссільна і панура апускаліся на каравчую падрыпаную спаднічку...

Плакала, а мне было шкода яе.

* * *

Іншы раз: дождж ішоў. было холадна і пакасна. Хмары абвалакалі ўсё неба і рабілася ў лесе цёмна як у якой трушчобе. А то яшчэ маланка бліскала і ляскаў

гром—страшна было тады. Мокрыя да апошняе ніткі мы садзіліся пад ялінку.

Уся ў дрыжыках яна моўчкі хілілася, кажучы:

— Я баюся, Янка. Гром вялікі, ён нас заб‘е.

— Ды не, ён нас ня бачыць—адказваў я—імы йзноў моўчкі сядзелі тулячыся як галубкі адзін да другога. Я любіў, калі яна тварам хавалася мне ў каленях. Тады я гладзіў яе русенькія валасы. Было чыста і добра ў сярэдзіне, а сэрца стукала звычайна. Я забываў, што мне холадна і мокра. Забываў, што можа ў шкодзе каровы і пытаў шопатам:

— Гэля, табе холадна?

— Не... трошкі—адказвала яна, хаваючыся далей у мае лахманы.

* * *

Гэля плакала. Маленькі твар яе пачырванеў і быў мокры. Схаваўшыся ў свае маленькія плечкі уцірала рукавамі вочы.

Яна згубіла каровы.

Станавілася вільготна і апускалася ноч.

— Ты тут крышку пабудзь пад гэтай бярозкай, а я заганю свае і памагу табе шукаць.

— Я баюся—вырвалася ў яе між сьлёз.

— Цябе ніхто ня схопіць—я зараз.

— Ну дык скарэй...

Усьпеўшы скінуць торбу і махнуць на плот, я строма нёсься да Гэлі. Падбегшы пад лес ціха агукнуў. Вечар падхапіў і панес пошчак рокатам. Ніхто не адказаў. Пабег далей у лес. Станавілася страшнавата. Стукала малатком сэрца.

— Гэ-эля!..—агукнуў другі раз. Густая шэрасьць праглынула мой голас, а з сярэдзіны данеслася слабенькае.—

— Ого-о-о-ў!

Скорчыўшыся клубочкам яна ляжала прытуліўшыся да кудравай бярозкі. Галава была укручана лахманамі, а патрэсканыя ножкі выходзілі плямамі з-пад каравай задрыпанай спаднічкі.

— Я баялася адна—з адчуваньнем страху ў голасе праказала яна і выцерла заплаканыя вочкі.

Яна йшла побач. Тулілася. Было холадна ў ногі ад расы, але мы ня чулі. Горай адчувалася жудасьць і чарната ночы

Кароў ня было.

— Дзе шукаць—міжвольна ў галаве узьнікала пытаньне. Але яно было глухое і чорнае, як надыходзячая ноч. О, як бы мы цалавалі рукі таму, хто сказаў-бы дзе гэтыя пара каровак: рыжая і падласка. Як-бы мы рады былі...

— Псейка, псейка, псё-го-го-го-го.

Крадучася між дрэў гінуў наш пудкі адгалосак. Станавілася жудасна.

— Можа яны ўжо дома—сказаў я цешачы сябе і Гэлю жаданьнем сапраўднасьці гэтае дагадкі.

— Ня ведаю—чуўся голас побач. А лес панура маўчаў і супіўся. Здавалася, што, вось, ведае дзе рыжая і падласка, але сказаць ніхоча.

* * *

Дома кароў ня было. Бацька яе крычаў, а маці налізгала трапкачом і выпхнула за вароты.

— Ідзі-ж ідзі, каб цябе ногі не насілі, плюгата! Якую-ж ты трасцу рабіла, калі пагубіла... Чаго-ж ты глядзела? Чэмяр гэтая, толькі кармі іх...

І йзноў ішлі ў лес. Гэля моцна плакала. Маленькія плечкі трасьліся ад узрыду, а доўгія рукавы білі па карэлай спадніцы...

Валаскі пазьбягалі на плечы...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... Ей было тады: 8 год.

II.

Іншы раз так бывае: набяжыць шалёны вецер. Рване шалёнаю сілай. Закруціць. Заверціць. Гнуцца з стогнам дрэвы. Калоцяцца.

Зрывае вецер з бяроз лісьцё і гоніць, гоніць круцячы ў паветры ў даль. А пасьля кіне іх обзем. І йзноў ірве.

Пасьля чорнай валавянай сьцяной ўстае тоўстая хмара. Паўзе насупіўшыся. Налазіць густой хібай, а вецер раве, раве...

Акутвае чорнай гонькай усё скляпеньне надгалоўя. Здаецца: вось-вось яна прыцісьне сваёй злоснай грамадзінай з усіх бакоў і тады... канец.

Жмурыцца тады трава, трапеча лісьцё, а навала суне, супіцца.

Пасьля маланка прарэзвае гэтую тлустую дзяругу і і рагоча гром. Гэта, кажуць: Ільля па небе езьдзіць у агнянай калясьніцы, а коні капытамі выбіваюць маланку.

Зразу моцна стукне, а пасьля мерна рокатам адбіваецца ўва ўсіх канцох і замрэ...

Празрыста-шэрай плёнкай акутае кругом дождж. Стромкі, пякуча-халодны. Да ніткі праб'е, змочыць. К ветру заварочваешся задам, корчышся і хаваеш твар. А кругом раве, раве...

Пасьля цішэй становіцца. Сьвятлей. Памалюсенку сьцягаецца агідная дзяруга і ўжо далёка і глуха чуецца гром. Дождж радзее. Пад захад паказваецца з усьмешкай сонца і ловіць сваімі косымі праменьнямі астатнія рэдкія. празрыстыя кроплі дажджу. Яны крышталяцца і здаецца: іграюць вокамгеньнем...

Хмара далёка ўжо. Грому не чуваць, а пападтыкаўшы свае карункі харошацца маладухі-бярозы. З лісьцяў капаюць бяссільна кроплі. Губяцца ў траве. А трава ўся зялёная, маладая, Здаецца: яна вырасла на цэлую цалю і рдзее ў мілай усьмешцы. Паветра добрае і лёгкае. Бачыш, як дыхаюць трава і бярозы—і сам дыхаеш. Грудзі рвуцца ў радасьці і сьвежасьці. Хвалююцца запалам і новай сілай, п'ючы цудазейны водар бадзёрага калерыту.

А ў высі, зьліваецца з сьмехам сонца звонкая песьня жаўра. Хочацца самому пяяць песьню—і пяеш...

Так іншы раз бывае...

Так вось і гады струменяць... Гудуць у шалёнай бегатні . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

III.

Мне было: 20 год...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мерна стукочуць калёсы зьліваючыся ў расьцяглы дрымотны гуд. Чуць-чуць гойдае ў бакі і здаецца хоча закалыхаць як дзіцянё. Але спаць ня хочацца, а толькі думкі плывуць каравай ніткай.

Праз вокны відаць, як кланяюцца ў сустрэч зялёна-тоўстыя кусты, мігаюць тэлеграфныя слупы і плямамі цалуе шыбы кудласты дым цягніка.

Нейк нудна аднаму. Хочацца з кім небудзь гаманіць. Праходжу з купэ ў купэ, аглядаючы склад пасажыраў. Усё старыя, ды заклапочаныя ўласнымі карзінкамі і пакункамі. Іду на сваё месца і саджуся. Супроць сядзіць дзяўчына. Яе вочы задумёныя. Глядзіць ў вакно. На галаве чырвоная ў кветкі хустка.

Мне здаецца, што ёй, таксама, хочацца гаварыць і я саджуся на супроць.

— А чартоўскі кепска, калі няма нікога знаёмага. Рабішся нейкім сутула-індывідуальным —пачынаю.

— Можа яно й гэтак—адказала яна кінуўшы вочы на хвіліну на мяне, пасьля йзноў у вакно, як-бы чаго там шукаючы.

— Пэўна, што гэтак. Я вось гляджу, і мне здаецца, што й вам хацелася-б з кім небудзь гаманіць, расьсеяць дакучлівыя думкі.

— Вы так думаеце?

— Іначай і ня прыходзіцца. І вось я думаю скласьці вам кампанію, каб было крыху весялей... Згодны?

— Шчыра дзякую. Бясспрэчна, гэта будзе шмат цікавей—і крышку ўсьміхнулася. У гэтай усьмешцы я ўлавіў прагнасьць да жыцьця, да размаху.

Што было далей гаманіць? Што зрабіць, каб наша гутарка была агульна зацікаўленай і адпавядала становішчу?

Крышку заглянуў у твар упарта. З пад хусткі выпаўзалі дзьве віхрыста-русыя пасмы валасоў. Быў круглявы белы твар і сінія бойкія вочы. У іх гарэў аганёк бляску.

— А хутчэй-бы ўжо Менск, надакучыла ехаць—сказала з утомай.

— Нічога. Праедзеце Барысаў і апынніцеся ў Менску. А за якімі патрэбамі едзеце туды?

— Еду паступаць у школу. Думаю падвучыцца крыху.

— Што-ж—гэта добра. А скуль-жа самі будзеце?

— Далёкая—адказаза яна—а хіба-ж вам цікава ведаць?—і чуць-чуць усьміхнулася. Яе ўсмешка была мілая. Тым больш, што на шчаках рабіліся ямачкі, што прыдавала больш прыгожасьці твару.

Мы гаварылі й далей. Яна сьмяялася і была вясёлай. Калі ўставала, дык шакаладнае лёгкае манто выдавала стройную фігуру і маладыя грудзі.

— Вы аднак добра ўладаеце беларускай мовай і, трэба думаць, што займаеце адпаведную пасаду?

Праўда, беларускай мовай яна ўладала не дасканальна і я рашыў запытацца:

— А вось цікава ведаць, чаму вы не ўладаеце ёю?

— Я, бачыце, увесь час была не ў Беларусі.

Мяне зацікавіла гэта. Хацелася ведаць, адкуль-жа яна і чаму едзе цяпер у Менск вучыцца.

—Тады дазвольце ведаць адкуль-жа будзеце ўсё такі?

— Я сама Случанка, але ўжо доўгі час як жыла за Смаленскам і толькі год, як вярнулася на бацькаўшчыну.

— Случанка?—запытаўся я зьдзіўлёна. Мая зьдзіўлёнасьць ад яе не схавалася і вызвала зацікаўленасьць.

— Чаму так зьдзіўлёна пытаецеся, тут-жа нічога няма нязвычайнага?

— Гэта паміж іншым... А мне цікава ўсё-ж такі ведаць з якой мясьцовасьці будзеце?..

Яна сказала.

А вёска?..

— На што такія дэталі?—З падазронасьцю крышку пачырванела. Здавалася казала:

«Ня муч допытамі».

Тым часам я пільней углядаўся ў твар незнаёмкі і рашуча хацеў дапытацца ўсё-ж такі, хто яна, калі Случанка.

— Бачыце, я сам Случак, дык для мяне гэта цікава. Можа мы і блізкімі акажамся.

На твары адчувалася становішча, як кажуць «ні ўзад ні ўперад». Гаварыць ёй чамусьці было цяжка і нехацелася. Вочы муціліся і пераставалі быць сінімі. На вуснах лунала якаясь прыдушаная ўсьмешка.

— Вы даўно са Случчыны?—не пакідаў я.

— Даўно.

— Колькі год?

— Гадоў 8 будзе.

— А што вас заставіла выяжджяць адтуль.

— Бачыце, выяжджала ня толькі я, а ўся сям'я наша. Гэта калі бежанцы йшлі.

— Дык вы бежанкай уцякалі?

— Прыходзілася.

— Цяпер мне скажыце ўсё-ж такі адну рэч: як вас зваць?

— Чаго вы прычапіліся да мяне з такімі пытаньнямі. Хіба нельга аб чым небудзь іншым гаманіць... Зрабіце ласку... а гэта лішняе. Усё-такі .. мне няпрыемна... я вас першы раз бачу... Кіньце гэта...

— Бясспрэчна, вам няпрыемна падобная гутарка, але мне здаецца, што пацярпець ад гэтага вы нічым ня можаце і, злокарыстаць гэтым мне з свайго боку таксама ня прыходзіцца. Проста—цікава. Тым больш, што я сам з дому ужо чацьверты год і мне прыемна гутарыць з выпадковай зямлячкай. Я быў-бы вельмі рад каб мог даставіць вам ня сум, а зацікаўленасьць і бадзёрасьць...

Яна апусьціла вочы. Твар парумянеў, а з-пад хусткі выпаўзалі віхрысьцей дзьве пасмы русых валасоў. Пальцы машынальна перабіралі бераг манто.

— Але мне цікава толькі, чаму вы задаецё такія пытаньні. Хоць гэта, праўда, не праступак, але усё-ж такі неяк крыху няпрыемна. Ня думайце, што гэтым я дакараю вас—не. Гэта проста—так. І калі вам вельмі хочацца ведаць мае імя, дык што-ж я магу сказаць: мяне завуць Гэляй.

— Чаго вы так глядзіце на мяне?—дадла яна, калі мой зірк хацеў утапіць яе ўсю цалкам у сваім абхваце.

Я паравёў вочы па вакно. У бегатні мігаліся кусты і дрэвы, а ў памяці мігаліся цені ўспамінаў...

«Мяне зваць Гэляй»—паўтаралася ў галаве. А што калі гэта тая самая Гэля ў каравай, задрыпанай спадніцы...

Як запытацца!

— Чаго Вы так раптоўна змоўклі?

— Нічога, гэта паміж іншым—адказаў я скора—Случчыну ўспомніў, маленства...

— А хіба што цікавае было тады?

— Не, так сабе... У мяне калісьці была знаёмая—Гэля... Таварышка была...

Яе зірк выцяў мяне.

— Якім гэта парадкам?

— Проста так... каровы пасьвілі...

— Янка!...

— Гэля! ..

Рукі моцна сьціснуліся. Вочы калолі напружанасьцю. Іскры білі з іх...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А цягнік клякатаў у стромай бегатні...

* *
*

... — Дык як гэта было?—раскажы.

— А так: Помніш, калі пад страхам казацкіх нагаяк усе ўцякалі ў бежанцы... Тады і мы паехалі. Цяжка было і горка.

Па дарозе памёрла мама. Яе пахавалі там пры шашы. Крыж бярозавы з карой паставілі над магілай і паехалі далей. Я плакала. Я была маленькая... ты-ж знаеш...

«Я знаю»—прабегала ў думках.

— Добра. Дзе-ж пасьля вы жылі?

— Мы далёка заехалі.

— Наніmaліся на работу. Я каровы пасьвіла. Доўга жылі па людзях. Калі сьціхамірылася—хацелі ехаць дадому, але нам сказалі, што ўсё папалілі.

— Стэфа вышла замуж там, дзе служыла. Пасьля ўзяла мяне к сабе, а тата паехаў дадому з Мікалаем.

— Дык тата з Мікалаем цяпер дома? Абсталяваліся?

— Як-жа—ім далі зямлі, лесу. Мікалай нават ажаніўся ўжо. Шматпалёку завялі.

— Ну, а ты ці была дома?

— Была. Але мне чамусьці лепш спадабалася ў Стэфы. Цяпер таксама, еду ад яе.

Цягнік стаяў. Мы хадзілі па жвірыстай насыпі ўдоўж і яна мне расказвала ўсё жыцьцё. Я слухаў. Слухаў з захапленьнем. З няменшым захапленьнем яна гаварыла і было міла слухаць высокі малады, сакаўны голас і лавіць у ім стрункі перажытага.

Сонца пякло асеньняй утомай і мы селі на лаўку пад каштан. Часта стараліся украдкай зірнуць адзін на другога і адшукаць хоць рыску былога ў падцьверджаньне гэтага факту.

Дарэмна. Нічога агульнага ў выразах і рысках твару ня было, а былі толькі сінія вочы...

Гутарылі.

Успаміналася маладосьць. Каровы ўспомніліся... Мамінае з доўгімі рукавамі коптачка і патрэсканыя тоненькія ногі. Успомнілася, як плакала пагубіўшы каровы і я запытаў.



— А помніш, Гэля, як разам пасьвілі каровы? Я помню.

— Помню—адказала яна перш апусьціўшы, а пасьля падняўшы вочы, у якіх быў дакор і усьмешка мінуламу.

— Янка!

— Я.

— Ты тут астаешся?

— Тут.

— Дай свой адрас.

Я даў.

— Толькі-ж ты, таксама пішы.

— Ну пэўнаж. Сваёй пастушцы як ня пісаць.

Яна весела засьмяялася.

... Два званкі...

— Янка!... Бывай!

Яшчэ раз вочы гарэлі смагай. Рукі сьціснуліся жалезам...

Ей было: 18 год...

Я перавёў вочы па вакно. У бегатні мігаліся кусты і дрэвы, а ў памяці мігаліся цені ўспамінаў...

«Мяне зваць Гэляй»—паўтаралася ў галаве. А што калі гэта тая самая Гэля ў каравай, задрыпанай спадніцы...

Як запытацца!

— Чаго Вы так раптоўна змоўклі?

— Нічога, гэта паміж іншым—адказаў я скора— Случчыну ўспомніў, маленства...

— А хіба што цікавае было тады?

— Не, так сабе... У мяне калісьці была знаёмая— Гэля... Таварышка была...

Яе зірк выцяў мяне.

— Якім гэта парадкам?

— Проста так... каровы пасьвілі...

— Янка!...

— Гэля!..

Рукі моцна сьціснуліся. Вочы калолі напружанасьцю. Іскры білі з іх...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А цягнік клякатаў у стромай бегатні...

* *
*

... — Дык як гэта было?—раскажы.

— А так: Помніш, калі пад страхам казацкіх нагаяк усе ўцякалі ў бежанцы... Тады і мы паехалі. Цяжка было і горка.

Па дарозе памёрла мама. Яе пахавалі там пры шашы. Крыж бярозавы з карой паставілі над магілай і паехалі далей. Я плакала. Я была маленькая... ты-ж знаеш...

«Я знаю»—прабегала ў думках.

— Добра. Дзе-ж пасьля вы жылі?

— Мы далёка заехалі.

— Нанімаліся на работу. Я каровы пасьвіла. Доўга жылі па людзях. Калі сьціхамірылася—хацелі ехаць дадому, але нам сказалі, што ўсё папалілі.

— Стэфа вышла замуж там, дзе служыла. Пасьля ўзяла мяне к сабе, а тата паехаў дадому з Мікалаем.

— Дык тата з Мікалаем цяпер дома? Абсталяваліся?

— Як-жа—ім далі зямлі, лесу. Мікалай нават ажаніўся ўжо. Шматпалёку завялі.

— Ну, а ты ці была дома?

— Была. Але мне чамусьці лепш спадабалася ў Стэфы. Цяпер таксама, еду ад яе.

Цягнік стаяў. Мы хадзілі па жвірыстай насыпі ўдоўж і яна мне расказвала ўсё жыцьцё. Я слухаў. Слухаў з захапленьнем. З няменшым захапленьнем яна гаварыла і было міла слухаць высокі малады, сакаўны голас і лавіць у ім стрункі пераж ытага.

Сонца пякло асеньняй утомай і мы селі на лаўку пад каштан. Часта стараліся украдкай зірнуць адзін на другога і адшукаць хоць рыску былога ў падцьверджаньне гэтага факту.

Дарэмна. Нічога агульнага ў выразах і рысках твару ня было, а былі толькі сінія вочы...

Гутарылі.

Успаміналася маладосьць. Каровы ўспомніліся... Мамінае з доўгімі рукавамі коптачка і патрэсканыя тоненькія ногі. Успомнілася, як плакала пагубіўшы каровы і я запытаў.



— А помніш, Гэля, як разам пасьвілі каровы? Я помню.

— Помню—адказала яна перш апусьціўшы, а пасьля падняўшы вочы, у якіх быў дакор і усьмешка мінуламу.

— Янка!

— Я.

— Ты тут астаешся?

— Тут.

— Дай свой адрас.

Я даў.

— Толькі-ж ты, таксама пішы.

— Ну пэўнаж. Сваёй пастушцы як ня пісаць.

Яна весела засьмяялася.

... Два званкі...

— Янка!... Бывай!

Яшчэ раз вочы гарэлі смагай. Рукі сьціснуліся жалезам...

Ей было: 18 год...

# Ліпень.

Ліпень, ліпень,
ад раньня цяплынь.
Заліваецца жаўранак ў небе.
Ліпкім водарам дрэмле палын,
ветрык межы паціху цярэбіць.

Аксамітны загойдаўся луг,
засьвістала каса наатмаш.
Ня стрымаць размазоленых рук,
бо на лузе
касецкі кірмаш.

Разапрэла кашула між плеч.
Ручайкі абцякаюць па твары...
Гэта сёньня
вясковая «галеча»
сонцу вышла яешню жарыць.

Дык таму так гуляе каса
між шаўковай травы на пракосе.
І таму так крышталіць раса
Абліваючы ногі босыя.

Ліпень, ліпень,
ад раньня цяплынь,
заліваюцца рукі утомай.
Ліпкім водарам дрэмле палын
у рассыпчатым жаўранкаў звоне.

м. Прапойск.

Прысьвячаю С. Х.

Сьвежым подыхам сыпала раньне,
чырвань зайкаю зьбегла на ўсходзе.
Я прыпомніў нашы спатканьні
і сёлетнія
і ў леташнім годзе.

Ты ішла такой ціхай хадою,
а ў вачох так палалі агні,
я-ж, заціснутым сэрцам тугою,
не спазнаў тваіх воч маны.

Я ня думаў,
ня знаў і ня ведаў,
што каханьне—атрута жыцьця,
што каханьне—заблытаны рэбус
і так цяжка яго разгадаць.

Чаму так,
чаму так я дзіўлюся,
хваляваньні чаму ў маім сэрцы?
Няўжо роспачы я пакланюся,
што тамлюся ў сьляпой паняверцы?...

Блакіт воч,
валасоў пераліў...
Ну пашто,
ну нашто зазірацца!
Хіба шыльда ня можа зманіць,
пасьля едка, пякуча ўсьміхацца.

Годзі-ж тлець,
годзі жменяй кідаць
ў палыны пачуцьці юнака.
Знаю я:
калі ў сэрцы туга—
яе можна ў сабе захаваць.

Сьвежым подыхам сыпала раньне,
чырвань зайкаю зьбегла на ўсходзе...
Я забыўся пра нашы спатканьні
і сёлетнія
і ў мінулым годзе.

Прапойск.

---

# І будзе...

І будзе—
        калі сонца
ды з намі пойдзе ў карагод...
А руніць радасьць ў нас бязконца
і чырваньню гарыць Усход.

Сягоньня мы у камсамоле,
у кветках дарагі наш шлях—
каб гаманіла кроў, ой, болей
і была ў чырвані зямля

А зарава кідае пырскі,
у промнях сонца гаю лён.

Я знаю: зарава успырсьне
і там на Захадзе крывёй.

... А руніць радасьць ў нас бязконца
і чырваньню гарыць Усход.
І будзе—
        калі сонца
ды з намі пойдзе ў карагод.

* * *

Ой, ды з-пад бярозак
коціцца крыніца.
Месячык цьвярозы
пахіліўся ніцам.

Коціцца крыніца,
шэпча казку—дзіва,
а бярозкі ніцыя
дзіву дзівяцца.

Колькі хараства
ў гэтым мілым краю.
У вясновых чарах
агні загараюць...

Месячык цьвярозы
пахіліўся ніцам...
Ой, ды з-пад бярозак
коціцца крыніца.

# М. Багдановічу.

Цалуюць бераг ціханькім усьплёскам
Блакітныя, як неба, хвалі,
І расквітаюць водблёскамі далі,
А сонца ўжо гарыць над пералескам.

Ужо на траве блішчаць расы каралі
І зьзяе рэчка дзіўным блескам.
А там, дзе сонца зьзяла над пралескам,
Здаецца, ўжо гараць агнём скрыжалі.

Прыгожы вечар, ціхі вечар мая...
Якое хараство... І творчасць маладая
З тваіх грудзей лілася ў гэты час.

Хоць ты радзіму меў сабе другую,
Але гарэў жыцьцём і душу маладую
Ты разьліваў ў мастацка-гібкі сказ.



* * *

Ружавее вёска
Кветкай ружавее...
Радасьць у прменьні
Сонечным імжыць.
Думка вольнай працы
Нібы вецер вее,
Жыцьцё маладое
Няспынна бяжыць...

Васільковай сіньню
Весела шугае
І пяе як птушка
Ветрык малады...
Ах, мая радзіма—
Вёска дарагая,—
Я цябе ня кіну
У гэткія гады...

Вецер, вольны вецер
Нахіліў калосьсі...
Вецер, буйны вецер
Вее у палёх...
Знаю я і веру—
Залатую вёску
Не спаткае болей
Няшчасьлівы лёс...

Знаю—
Кліча горад
Грукатам варстатаў...
Хай...
Загартаваным зноў прыду ў палі...
Бо ня знаў радзімей
Заімшалых хатак,
Бо ня знаў радзімей,
Роднае зямлі.

═══

# Эх, сонца...

Эх, сонца, сонца...
радасць мая.
Эх, гул вясны ў палёх, лясох:—
сягоньня з шчасьцем вас вітаю,
а сэрца плешчацца ў грудзёх.

Вясна, вясна!
Сваволіць вецер.
Вясна, вясна!—
пяе чарот.
А вербы залацяцца вецьцем.
Імкненьняў круціць карагод.

Бурліць жыцьцё.
Сьмяецца водаль...
І ручайкі нібы жыцьцё.
Квітнее чырваньню Свабода,
чарнее старае лісьцё.

А маладосьць ў грудзёх ракоча
і кіпянём бурлівіць кроў;—
старога ўспамінаць ня хоча,
бо пачалі мы жыць ізноў...

Сягоньня з шчасьцем я вітаю,
а сэрца плешчацца ў грудзёх...
Эх, сонца, сонца—
радасьць мая,
эх, гул вясны ў палёх, лясох.

# У нашых сэрцах сьпяваюць баяны.

Вечар піў палыновыя росы
з лагчын
пазаросшых бур'янам.
Мы цяпер не заплачам праз сьлёзы—
ў нашых сэрцах—
сьпяваюць баяны.

Ціха, ціха ў палёх разьлілася
аксамітна-ружовая скронь.
А з абшараў мяцежная восень
на зямлю
парассыпала кроў.

А у смольна-сасновым бары
хмель галовы ускружвае п'яны...
Мы цяпер
не спаткаем журбы,
бо у сэрцы
сьпяваюць баяны.

# Ой, у полі...

Ой, у полі,
на прывольлі
Сьвішча вецер
так паволі,
Веянь вее
завявае,
Сьнег, пушыначкі
гайдае.

Дзесь ў даліне
на нізіне
Запляту я ў кудрах
іней
І ў зімы цудоўных
чарах
Разальлю я думкі—
мары.

У полі сьцелецца
мяцеліца
І раптоўна ўсё
убеліцца...
Даль, даліны,
поле межы
Апрануцца бельлю
сьнежнай.

На прасторы,
касагоры
Лягуць новыя
узоры...
Дзесь ў даліне,
на нізіне
Запляту я
ў кудры іней.

# Эх, пашто...

Кругом ціш, кругом бляск,
сінь сьняговая.
Вёскі зрэбныя ў гурбах ляжаць...
Эх, зіма ты,
зіма сінябровая,
люба мне табе песьні складаць.

Люба мне у марозныя раніцы
слухаць сьпеў
завіхуры ліхой...
Мае думкі бы хмель завіваюцца...
Бор качае сівой галавой.

Эх, пашто,
ну пашто сумаваць мне,
жудасьць чорную ў сэрцы насіць.
Калі дні віхраметныя вабяць—
толькі мне маладому
і плыць.

Кругом ціш, кругом бляск,
сінь сьняговыя.
Вёскі зрэбныя ў гурбах ляжаць...
Эх, зіма ты,
зіма сінябровая,
люба мне табе песьні сьпяваць.

в. Барылы.

* * *

ПЯТРУСЮ БРОЎКУ.

Сонца разьлілося золатам па гонях,
Гай кудравы шэпча казкі над ракой.
Песьняю ды звонкай сёньня ты сваволіш
І па струнах ўдарыў на душы маёй.

Сёньня так прыгожа і ўсё гэтак нова.
І размах пачуцьцяў—цэлы акіян.
Дык іграйце-ж песьні—залатыя словы—
Роднай Беларусі вольнасьці раманс.

Дык таму і ў сэрцы, дужа маладым,
Радасьць сьвеціць, б'ецца, ды яшчэ якая...
Ах, у гэты вольныя, любыя гады
Хай шляхі спаўюцца з песеняк вянкамі.



«Што прайшло, то ніколі ня зьвернецца».

П. Броўка.

* * *

«Што прайшло, то ніколі ня зьвернецца»—
Не спаткаць нам мінуўшчыны здань.
Дык таму у грудзёх маіх весьніцца
Сінявейная сьветлая рань.

Дык таму вось чырвонай малінаю
Расквітнела надзея адна...
Вецярок ціха шэпча з далінаю,
У косах сонца палошчацца гай.

Не дагнаць журбе дзён ў звонкім гомане,
У звоне ніў і фабрычных гудкоў...
Хай-жа радасьць кудравіцца клёнамі
На шляху сонцавейных вякоў.

«Што прайшло, то ніколі ня зьвернецца»
Не кране і туга сэрца струн.
Бо што дзень то бліжэй усё сьвецяцца
Залатыя нам зоры камун.

1927 г.

# БІБЛІАГРАФІЯ

**ВАСІЛЬ КАВАЛЬ. «Як вясну гукалі»—апавяданьні. Выд. ЦБ Маладняка 1927 г. Цана 35 к.**

Першая кніжка новага празаіка ў беларускай літаратуры. У зборніку адно вялікае апавяданьне і тры народных лягенды.

У апавяданьні «Сяльчане» малюецца вёска ў розныя часы году з яе працаю і грамадзкім жыцьцём.

З мастацкага боку апавяданьне заслугоўвае ўвагі, з боку-ж праўдзівасьці адбіцьця працы сялян, іх жыцьця—ёсьць нешта штучнае. Так, напрыклад: малюецца жыцьцё беднае вёскі ў якой вясною прападае жывёла ад недахопу харчы, а калі й выходзіць на весну, дык «рэбры выпіраюць у коняй і вады не бяруць», бо «адно сена даючы—ня хопіць» а таму «кормяць струшанкай».

У гэтым-жа самым апавяданьні, калі апісвае самую вясну, настолькі захапіўся ёю, што «угледзеў на страсе дзеда Гаўрылу, які перакрываў клецъ»...

Можа хіба ён кулак, скупы, што не пазычыць суседу дзясятак кулёў для сечкі? Але не—па апавяданьню гэта звычайны селянін, якому раяць зьняць «аблавухую шапку, якой даўно пара ўжо на спакой».

Можа гэта глупства, але-ж літаратура праз мастацкія вобразы пасабляе нам адчуць сапраўднае жыцьцё, яго дадатныя і адмоўныя бакі арганізуе нашу волю і накіроўвае ў належным напрамку, а што-ж будзе, калі пісьменьнік будзе штучна склейваць не адпаведныя ў рэчаістасьці факты?

Есьць і іншыя несапраўдныя факты жыцьця вёскі і неправільныя вывады характарыстык сваіх гэрояў, як сакратара камсамольскай ячэйкі, які, маючы сярэднюю адукацыю запіў ад таго, што неўдалося далей вучыцца.

Усе гэтыя хібы можа ад непрадуманасьці, ад пасьпяховасьці, але ўсё ж Кцваль Васіль дае права думаць, што з яго ўжо цяперашнім аўладаньнем літаратурнай пабудовай, можа быць добры празаік.

Лягенды-ж, дзе непатрэбна была ўвага да фактаў, робяць прыемнае ўражаньне. Відаць, што Каваль Васіль ужо мае некаторыя посьпехі ў аўладаньні тэхнікай пісаньня. Даюць повад верыць яго «шчырыя ад усяго сэрца сказаныя» словы: «Прышлі вольныя дні, вясёлыя, бо толькі жыць, ды жыць – перамагчы жыцьцё, а калі адзін ня здолен – дык грамадою!»..

«Як вясну гукалі» цікавая кніжка, асабліва дзецца ў ёй даволі каштоўны ўзор апрацоўкі народных лягенд, якія блытаюцца сярод нашага сялянства, але яшчэ не знайшлі мастака для апрацоўкі.

М. Ян. Грашч.

---

**Н. ЧАРНУШЭВІЧ «Дзіва» вершы. Дзяржвыд. 1927 г. 67 ст. Цана 30 к.**

З Чарнушэвічам, як з паэтаю, працоўныя знаёмы ўжо гады чатыры па вершах, якія зьмяшчаліся ў «Сав. Бел.» і часопісах.

Сёлятні год аўтар выдаў свой першы зборнік вершаў «Дзіва». І сапраўды дзіва.

Прыходзіцца дзівіцца, як мог аўтар выдаць такі зборнік, такую «паэзію».

Калі прачытаеш чый небудзь зборнік, дык, звычайна, складваецца пэўная думка аб усім зборніку, кожным разьдзеле, вершу і самім аўтару. Пасьля-ж «Дзіва» нічога не застаецца.

Рыфмоўка ў Чарнуш. новая, пабудаваная на дысанансах: «заслоніў-зломіць», «блудзіць –маладзік», «логі-зложым», «узгорак-зорка» і г. д.—цяжкая, а рытм амаль адсутнічае. Вось прыклад: «Хто пасьмее на сьвеце ўсходы нашага сёньня, доўгажданыя ўсходы бессаромна сарваць? Ты забудзеш, што будзе галасіць пад вярбою над разьбітай калыскай неданошаных мар...» (14 стар.) Марудная, незразумелая проза. Чытаеш напружана, хочаш прачытаць так, як чытаецца верш – ня выходзіць; хочаш зразумець пра што аўтар піша, што ён хацеў сказаць і задаеш сам сабе пытаньне: ці ведаў сам аўтар пра што пісаў?

Занадта ўжо «завумная» кніжка, але ніхто ад яе не паразумнее. Шкода і часу і паперы і Чарнушэвіча.

«Дзіва»—займе пачэснае, а можа й самае першае месца сярод кніжак літаратурнае хаўтуры.

М. Гр.

---

# ЗЬМЕСТ

